


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выход...ць па пятніцах. В... з ... красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

7 сакавіка 2014 года **10 (984)**

# Са святам, мілыя нашы жанчыны!

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Ехаў з лецішча і ўехаў у МАЗ

**АСТРАВЕЦ.** Здарэнне адбылося вечарам 28 лютага каля вёскі Белькішкі. “Сітраэн” выехаў на паласу сустрэчнага руху, па якой ехаў “МАЗ”. Кіроўца грузавіка узяў правей. Пры гэтым ён рызыкаваў апынуцца ў глыбокім кювеце. Сутыкненне адбылося на прамым участку з сухім дарожным пакрыццём. Кіроўцу “Сітраэна”, які ехаў з лецішча з сабакам, давялося выразаць з машыны. Прыкладна праз чатыры гадзіны пасля шпіталізацыі ён памёр. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка РАУС **Вадзім Савіцкі.**

### Працуе банкамат для слабавідушчых

**МАЛАДЗЕЧНА.** 12 сакавіка а 14 гадзіне ў гандлёвым цэнтры “Спадарожнік”, дзе і ўсталяваны банкамат, адбудзецца прэзентацыя работы банкамата для людзей са слабым зрокам. Такі банкамат другі ва ўсёй краіне, удакладніла старшыня вытворчага аб’яднання унітарнага прадпрыемства “Энва” **Марына Саўчук.** Асноўнае яго адрозненне ад звычайных банкаматаў у тым, што ўсе аперацыі агучваюцца. Дастаткова падключыць звычайны навушнік, як ад мабільнага тэлефона. Арганізацыя “Энва” звярталася ў гарадскі выканаўчы камітэт цягам трох ці чатырох гадоў. Толькі на гэтым адным прадпрыемстве працуе 240 чалавек са слабым зрокам. Большая палова з іх карыстаецца банкаўскімі карткамі.

### Пабачыць “Свет насякомых”

**МЯДЗЕЛ.** У музеі народнай славы праходзіць выстава “Свет насякомых”. На ёй прадстаўлены экспанаты з фондаў дзяржаўнага музея прыроды і экалогіі. Тут можна пабачыць матылькоў (як беларускіх, так і трапічных), жукоў, цыкад, скарпіёнаў, павукоў, прусакоў, стракоз ды іншых насякомых. Выстава працягнецца да 20 сакавіка, паведаміла галоўны захавальнік фондаў музея **Наталля Бурак.**

**Аддзел інфармацыі.**



# Яны роўныя мужчынам? Не – недасягальныя!..



Фота забяспечана Тэрэсай КОШАНЬ.

**Дзмітры Богдан, Віталь Крупянькоў і Алег Чэчанеў віншуюць самых прыгожых, непаўторных, пяшчотных чытачак “Рэгіянальнай газеты” са Святам 8 Сакавіка. Кветкі для здымку забяспечыла крама “ДзіваФлора”.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Свята 8 Сакавіка ўжо даўно не проста Міжнародны жаночы дзень, а дзень вясны, і сонца, і прыгажосці , і кахання.**

Іяго чакаюць усе жанчыны (хоць і не ўсе прызнаюцца ў гэтым). Напярэдадні свята мы зрабілі апытанне на нашым сайце rh.by, чаго больш за ўсё чакаюць у гэты дзень жанчыны.

Самымі папулярнымі аказаліся адказы:

1. Прыемны сюрпрыз
2. Дарагі падарунак
3. Кветкі
4. Сняданак у ложак

Мы папрасілі вядомых, а, галоўнае, імпазантных мужчын нашага рэгіёна пракаментаваць гэтыя складнікі свята па версіі чароўнай паловы чалавецтва.

### Віталь Крупянькоў: Калі ў сям’і разыгрываюць такая сям’я моцная

– Жанчыны хочуць сняданак ў ложак? Гэта ж негігіенічна. Мяркую, што кожны мужчына здольны прынесці сняданак у ложак, але ці варта гэта рабіць? Вось разбудзіць каханую, прыгатаваць сняданак, накрыць святочны стол і запрасіць да стала. Вось гэта па мне.

**– А сюрпрызы для жонкі рыхтуеце?**

– А як жа. Да сёння памятаю сюрпрыз, які зрабіў жонцы 20 гадоў таму. Сваімі рукамі зрабіў нішу на кухні. Жонка раніцай зайшла ў кухню і ледзьве не абамлела… ад жаху. Гэтая ніша ніяк не ўпісвалася ў інтэр’ер, яна псавала ўсё. Праз некаторы час давялося яе разбурыць. З таго часу ніякіх сюрпрызаў сваімі рукамі я не раблю. Што ж датычыцца сюрпрызу ўвогуле – для мяне гэта нішто іншае, як дарагі падарунак. А мая прыродная скупасць (смяецца) не дазваляе мне рабіць такія падарункі. Як правіла, я яшчэ задоўга да свята зандзірую глебу, чаго чакае мая жонка ў падарунак. І вось тады падарунак атрымоўваецца АХ. Ну і гляджу, што падарыла яна мне на 23 лютага. Я жартую.

**– Ці робіце вы падарункі такія, якія нельга ўзяць у рукі? Такія прыемныя нечаканасці?**

– Глупствы я раблю ўвесь час. Гэта стыль жыцця. У нашай сям’і прынятыя розыгрышы, таму, магчыма, і сям’я ў нас дружная.

**– Выхадны дзень 8 сакавіка будзе адрознівацца ад іншых выхадных?**

– Канешне. Толькі я думаю пра тое, што хацяж б трубу ў школе, дзе я працую дырэктарам, не прарвала, а то будуць тады і нечаканасці, і сюрпрызы.

**– Як будзеце віншаваць свой жаночы калектыў?**

– У нас пройдзе прэмія “Оскар”, дзе ўзнагародзім модніцу, спартсменку, кулінара, мастака і іншых жанчын калектыва медалямі і, зразумела, самымі прыгожымі камплiментамі.

### Дзмітры Богдан: Букетаў трэба шмат

– Свята – гэта букеты. І букеты не толькі кветак. Гэта букеты з песень, слоў, вершаў, падарункаў, радасці. А 8 сакавіка такіх букетаў трэба безліч. Першае свята ў сакавіку пачынаецца з адначлення: прырода страсае з сябе стомленасць, выходзіць са спячкі. Так і жанчына. І ад мужчын залежыць, з якім настроем абудзіцца ада сну жанчына гэтай вясной.

**– З чаго пачынаецца 8 Сакавіка ў вашай сям’і?**

– Мы з двума сынамі ўстаем рана. Каб не разбудзіць нашу маму, ціхенька збіраемся і ідзём набываць кветкі. Абавязкова штогод рыхтую прывучаю сваіх хлопцаў да таго, што жанчыну трэба радаваць дробязямі. Надзьмуць паветраныя шарыкі ці прымацаваць да лядоўні паштовачку з вершам. І абавязкова віншуем бабуль. Я свайё маме ўдзячны за тое, што яна выхавала мяне такім, які я ёсць, таму святочны букет, у першую чаргу, ёй. І дзеці мае ведаюць, каму дзякаваць за такіх маму і тату.

**– Лепшы падарунак жанчыне – што гэта?**

– Увага, каханне, і абавязкова падарыць ёй адчуванне таго, што яна адзіная, жаданая, непаўторная і каханая.

**Наталля ТУР.**

**Працяг на 6 -й старонцы.**

АДПАЧЫНАК

# Прайсціся з аўдыягідам па Нарачы

**МЯДЗЕЛ. У азёрным краі стварылі аўдыягід па курортным пасёлку Нарач (Купа). Скарыстацца ім могуць уладальнікі смартфона або планшэта.**

Распрацавалі аўдыягід супрацоўнікі навуковага аддзела Нацыянальнага парку "Нарачанскі" разам з прадстаўнікамі мясцовай супольнасці. З дапамогай інтэрактыўнай інфармацыйна-даведкавай сістэмы госць курортнага пасёлка зможа зарыентавацца ў інфраструктуры і атрымаць багата пазнавальнай інфармацыі.

– Аўдыягід галоўным чынам арыентаваны на пешаходаў, – расказвае намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**. – У ім налічваецца 33 пляцоўкі: сярод іх тэрыторыі здраўніц, бліз крам, аўтавакзала, на перакрыжаваннях пешаходных шляхоў, уздоўж возера Нарач...

Аўдыёгід зроблены так, што пры ўваходжанні на такія пляцоўкі ў курортным пасёлку (пры працуючым GPS) уключаецца аўдыёзапіс. У ім расказваецца пра найбліжэйшае атачэнне і тлумачыцца, куды неабходна рухацца да важных аб'ектаў.

Таксама на экране ёсць тэкставы запіс агучанага расказу і інтэрактыўная карта. А на здымках можна ўбачыць пейзажы Нарачы.

У бліжэйшы час запланавана стварэнне новых аўдыягідаў – і па курортнай зоне, і па экскурсійных маршрутах краю. Найхутчэй госці краю змогуць здзейсніць з аўдыягідам пазнавальную экскурсію па ўзбярэжжы возера Нарач у межах курортнага пасёлка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Драўляная скульптура на ўзбярэжжы возера Нарач.**

### Як займець аўдыягід?

Для гэтага неабходна загрузіць у свой смартфон або планшэт бясплатны дадатак OPAS (у Google Play ці Apple Store) і непасрэдна сам аўдыятур "Даведнік па курортным пасёлку Нарач". Пасля загрузкі тура аўдыягід працуе ў рэжыме афлайн (не патрабуе далучэння да інтэрнэту).

НАВУКА

## Гімназіст вызначыўся ў рэспубліканскім конкурсе

**МЯДЗЕЛ. Узнагародзілі дзевяцікласніка гімназіі-інтэрната райцэнтра Дзяніса Марача.**

Ён атрымаў дыплом другой ступені на 25 рэспубліканскім конкурсе біёлага-экалагічных прац навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі і дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

Праходзіў ён у Мінску 25-26 лютага. Удзельнічалі ў конкурсе больш за сотню навучэнцаў з усёй Беларусі, паступіла на яго 87 навукова-даследчых прац.

Адзначаны Дзяніс за працу "Ацэнка экалагічнага стану рэк, прыдатных для нерасту прахадных ласасёвых рыб у Беларусі".

Гэта не першы поспех гімназіста. Вызначаўся Дзяніс Марач і ў леташнім конкурсе (тады ён удзельнічаў разам з **Аленай Грыгалёнак**). Яны атрымалі дыплом трэцяй ступені за працу, у якой вывучалі раку Дробня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АФІЦЫЙНА

## Змяніўся галоўны доктар ЦРБ

**МАЛАДЗЕЧНА. Як паведамілі ў Цэнтральнай раённай бальніцы Маладзечна, былы галоўны доктар Сяргей Савіцкі сышоў па сваім жаданні ў сувязі з пераменай месца жыхарства.**

Старшыня Мінскага аблвыканкама **Сямён Шапіра** прызначыў выконваючай абавязкі галоўнага доктара **Таццяну Шамодзі**. Яна з'яўлецца таксама намеснікам галоўнага доктара па дзяцінству і дапамозе пры родах.

У 1994 годзе Таццяна Шамодзі скончыла медыцынскі інстытут. Потым прайшла інтэрнатуру, ардынатуру, працавала ўчастковым педыятрам, доктарам-рэабілітолагам, загадчыцай дзіцячай палiклінікі.

**Аддзел інфармацыі.**



Архіў "РГ".

**Таццяна Шамодзі, выконваючая абавязкі галоўнага доктара Маладзечанскай ЦРБ.**

## Ахоўваць жывёл і раслін на Вілейшчыне будзе Мядзельская інспекцыя

**МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА. Тэрыторыя Вілейскага раёна цяпер адносіцца да зоны адказнасці Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

Адбылося гэта ў сувязі са зменамі структуры Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і ліквідацыяй з 1 сакавіка Вілейскай міжраённай інспекцыі.

У кампетэнцыю інспекцыі ўваходзяць пытанні ажыццяўлення дзяржаўнага кантролю за выкананнем законаў, рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Урада Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных органаў, якія рэгулююць ахову і выкарыстання аб'ектаў жывёльнага і расліннага свету, зямлю, а таксама ажыццяўленне дзяржаўнага кантролю за забеспячэннем рыбаводнымі арганізацыямі захаванасці рыбы, якая ўтрымліваецца ў сажалках.

Пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць у Мядзельскую міжрайінспекцыю па нумары **8-01797-50740**, або на адзіны "тэлефон даверу" ў Мінску – **8-017-3900000**. Уся атрыманая інфармацыя будзе ў абавязковым парадку правераная.

Месца знаходжання міжраённай інспекцыі: *Мядзел, вуліца Крупскай, 13.*

**Валеры КЛЯНОЎСКІ, начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць відавочцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 студзеня 2014 года каля 19.40 на аўтадарозе Маладзечна – Валожын здарылася ДТЗ з удзелам аўтамабіля "Сітраэн-Ксантыя".**

Кіроўца аўтамабіля, рухаючыся па вуліцы Маладзечанскай у вёсцы Цюрлі, непадалёк ад канцавога прыпынку маршрутнага аўтобуса №4 наехаў на пешахода, які пераходзіў праезную частку па пешаходным пераходзе. У выніку дарожнага здарэння пешаходу прычыненыя цяжкія цялесныя пашкоджанні. Просьба да кіроўцаў і відавочцаў ДТЗ паведаміць ў ДАІ Маладзечанскага РАУС, кабінет 12 ці 18. Тэл. **74-53-40, 74-68-41** або па тэлефоне **102**.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



*Шаноўны чытач! Падпіска на "РГ" не спыняецца. Не губляй свой шанец падпішыся!*



*Падпісацца на "РГ" можна на пошце ПА ЎСІМ РЭГІЁНЕ. Падпісны індэкс: 63212 (індывід.), 632122 (ведамасная падпіска)*

ВАДА

# Кіпяціце ваду ў паводку

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета зіма здалася ў лютым і, верагодна, паводку не будзе. Але вясной заўсёды ўздымаецца ўзровень грунтовых вод.**

Пры падтапленні выграбаў, каналізацыйных калодзежаў, участкаў каля прыбіральняў вада забруджваецца небяспечнымі мікробамі і энтэравірусамі.

Неабходна памятаць, што ваду ў веснавы перыяд, нават з уласнай студні, трэба абавязкова кіпяціць! Сілкуецца студня грунтовай вадой ці верхаводкай. Якасць такой вады не гарантаваная, хаця можа мець добры смак. Гатаваць ваду трэба вясной для прафілактыкі інфекцыйных захворванняў: энтэравірусныя інфекцыі, жаўтуха, крываўка. Перадавацца гэтыя хваробы і праз ваду.

Падчас паводкі варта гатаваць і вадаправодную ваду для піцця. У гэты перыяд могуць падтапляцца не толькі студні, але і падземныя павільёны артэзіянскіх свідравін, назіральных водаправодных калодзежаў. Калі няма ціску ў вадаправодзе (пад час аварый) – талыя воды могуць падсмоктвацца ў размеркавальную сетку праз затворную арматуру.

Уласнікам вадаправодаў раім ў час паводкі весці больш дбайнае тэхнічнае абслугоўванне вадаправодных збудаванняў, узмацніць ведамасны кантроль за якасцю вадаправоднай вады.

### Сачыце за якасцю вады

Якасць вады са сваёй студні або свідравіны можна ў лабараторы Маладзечанскага занальнага ЦГЭ па дагаворы.

**Калі студні падтапляюць талыя воды, ці ў іх змяняецца якасць смаку ці колеру, варта піць бутыляваную ваду гарантаванай якасці ці вадаправодную, або кіпяціць калодежную ваду 15 хвілін.**

Пасля заканчэння паводкі, калі ўзровень грунтовых вод спадзе, варта ачысціць і зрабіць дэзынфекцыю студні. Для гэтага калодзежу дастаткова некалькіх таблетак "Аазіс" ці "Акватабс", якія маюць дэзінфіцыруючы эфект. Колькасць таблетак залежыць ад аб'ёму вады ў студні. На адну запоўненую трубу дастакова адной таблеткі.

Уласнікі калодзежаў нясуць асабістую адказнасць за якасць вады і ўтрыманне калодзежа, своечасовы штогоды рамонт і ачыстку паводле патрабаванняў санітарных правілаў, норм і гігіенічных нарматываў.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, загадчык аддзяленнем камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**



Фота zemlinsk.ru

**За санітарны стан студні адказныя яе гаспадары.**

**Даведка "РГ". Энтэравірус** – вірус, які трапляе ў арганізм праз страўнікава-кішачны тракт.

ЭКАНОМІКА

# "Кіраўнікам упрагчыся і працаваць"

**МАЛАДЗЕЧНА. Па некаторых эканамічных паказчыках Маладзечаншчына летась не дасягнула пазалеташні ўзровень.**

Сітуацыю па сацыяльна-эканамічным развіцці раёна абмяркоўвалі на чарговай сесіі Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў, якая адбылася 28 лютага.

Намеснік старшыні райвыканкама **Генадзь Актанаровіч** дакладаў, што пэўныя складанасці былі на мікра- і макраўзроўні, якія не дазволілі выканаць прагнозныя паказчыкі. Астаткі гатовай прадукцыі мае Радашкавіцкая Белмастацкераміка, Маладзечнамэбля, "Энва" і іншыя.

На Алёхнавіцкую птушкафабрыку знайшлі інвестара – "Еўрагандль". Намеснік старшыні лічыць, што абноўленая фабрыка зробіць Алёхнавічы зусім іншым пасёлкам.

Знізіліся надоі малака.

У тавараабароце доля айчыннай прадукцыі паменьшылася. Інвестыцыі не дасягнулі ўзроўню 2012 года.

Затрымкі па заробках маюць завод жалезабетонных вырабаў, гаспадаркі "Маркава", "Селеўцы", "Купала-агра" і іншыя.

На сесіі падкрэслілі, што прадпрыемствы, у якіх менш за 30% прадукцыі ідзе на экспарт, не маюць будучага. У іх будуць і затрымкі па заробках, і па аплаце энерганосьбітаў. Толькі адзінкавыя прадпрыемствы маюць маркеталагічныя службы. У іншых гэтую ролю выконвае ці кіраўнік, ці аддзел забеспячэння.

– На нас асаблівая ўвага, – пракаментаваў старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**. – "Трайпл-Велес" павёў уніз, але не павінна быць такое, што на адной арганізацыі трымаецца ўвесь раён. Па экспарце мы маглі добра спрацаваць, але спрацавалі слаба. Па інвестыцыях таксама – пусцілі на самацёк. Кіраўнікі прадпрыемстваў былі не напружаныя. Нават выплаты па заробку выканалі не своечасова. А гэта важнейшы момант, гэта наша ідэалогія, тое, па чым ацэньваюць кіраўніка. На недапрацоўкі ў сельскай гаспадарцы былі аб'ектыўныя прычыны, але не толькі яны. Прывагі няма, загатоўка кармоў прайшла з рук вон кепска. Кіраўнікам трэба ўпрагчыся і працаваць. За вамі – людзі, калектыў, сем'і, якім трэба карміць і выхоўваць дзяцей. Па выніках года – заўвага першаму намесніку старшыні, начальніку ўпраўлення па сельскай гаспадарцы **Генадзю Бажко**. Але я ўпэўнены, што сёлета мы з усім справімся.

Начальнік фінансавага аддзела **Таццяна Варывончык** даклала, што за 2013 год раённы бюджэт атрымаў 853 мільярды рублёў даходаў, і выдаткаваў 858 мільярдаў. Дэфіцыт бюджэту – пяць мільярдаў. Два з іх закрылі сельсаветы дзякуючы свабоднаму астатку.

На гэты год раён мае адзін трыльён 185 мільярдаў рублёў у бюджэце. У тым ліку 790,7 мільярдаў пойдзе на абавязковае фінансаванне – сацыяльныя выплаты, аплату камунальных паслуг.

25 мільярдаў дазволяць закончыць рамонт раённай бальніцы, 15 мільярдаў – паставіць кацельню ў Радашкавічах.

З рэзервовага фонду раёна ў 2013 выдаткоўвалі на святкаванне Дня Незалежнасці, угодкаў Маладзечна, прэміі пераможцам конкурсу "Прыгажосць. Гармонія. Стыль", прэміі лепшым работнікам сельскай гаспадаркі, памяншэнне кошту пуцёвак дзецям з малазабеспечаных сямей і іншыя. 27 мільёнаў атрымала ветстанцыя на прафілактыку з афрыканскай свіной чумой.

Два з паловай мільярды свабодных астаткаў плануюць накіраваць на пракладку каналізацыйных сетак каля вуліцы Новы свет, а таксама на тое, каб усталяваць ачыстныя збудванні на спусках гарадскіх ліўнёвак ва Ушу. Гэта дазволіць зрабіць на беразе ракі пляж, месца адпачынку для гараджан.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 27.02 | 6.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9750 | **9 790** |
| **Еўра** | 13400 | **13 440** |
| **Злоты** | 3224.1 | **3 214,58** |
| **Літ** | 3880.83 | **3 895,51** |
| **Расійскі рубель** | 272.5 | **271,50** |
| **Грыўня** | 963.44 | **1 058,38** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 9750/9800 | **9790/9850** |
| **Еўра** | 13380/13480 | **13420/13530** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.02 | 5.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105500 | **107000** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 58050 | **45500** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 21900 | **23800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 67000 | **80000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 29000 | **29000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 29000 | **32000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | **13500** |
| **Алей** | 12000 | **14000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6500 | **6500** |
| **Капуста**, 1 кг | 5500 | **6000** |
| **Морква**, 1 кг | 6000 | **6200** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21000 | **22000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 12500 | **13500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 14500 | **14000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 15000 | **18000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 32000 | **32000** |
| **Перац**, 1 кг | 39000 | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 27000 | **22000** |
| **Бананы**, 1 кг | 14500 | **14500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9000 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг | 18000 | **18500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **42000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 20000 | **20000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

# Жанчына ў форме можа даць фору

**МАЛАДЗЕЧНА. Сядзеў на пероне ў дзве гадзіны ночы і не заўважыў цягнік, курыў у тамбуры, сарваў стоп-кран, скраў мабільнік – хто займаецца гэтымі справамі і як пазбегнуць няшчасцяў на чыгунцы?**

Пра тое, чаму існуе транспартная міліцыя і з-за чаго адбываюцца злачынствы і здарэнні на чыгунцы, распавяла **Таццяна Субач**, лейтэнант міліцыі, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.

### Чым займаецца транспартная міліцыя

– Правапарушэннямі і злачынствамі, якія адбыліся на аб'ектах чыгункі. На маладзечанскай чыгунцы ёсць пяць буйных аб'ектаў: лакаматыўнае дэпо, рэфрыжэратарна-вагоннае дэпо, дыстанцыя пуці, дыстанцыя сігналізацыі і сувязі, а таксама станцыя Маладзечна. У нас дастаткова буйная галіна, мы абслугоўваем чатыры накірункі: полацкі, мінскі, гудагайскі і лідскі.

Спецыфіка працы транспартнай міліцыі, вядома, ёсць. Каб агледзець, скажам, цечу груза – неабходныя спецыяльныя веды. Калі ўчастковы інспектар прыйшоў з сямейнага скандала, дзе муж збівае жонку, яму будзе складана зрабіць агляд цягніка. Не будзеш жа тлумачыць "Ну вось тут, пад калёсікам, каля сіняй дэталькі, цячэ нейкая вадкасць".

**– Дзе найчасцей штосьці здараецца?**

– Станцыя Алёхнавічы, наогул, мінскі кірунак. Там найбольш правапарушэнняў, часта выпіваюць. Калі шчыра, гэта наогул як асобная краіна. Некаторыя хоць дзе пераходзяць пуці. Я сама прыязджаю, бачу: ідзе чалавек ну проста перад цягніком! Куды ты? Прыцягнулі да адказнасці за пераход у неналежным месцы. Але парушальніка гэта не хвалюе – як ішоў, так і далей пойдзе.

**У 2013 годзе адбылося 11 выпадкаў траўматызму на тэрыторыі, за якую адказвае Маладзечанскі аддзел УУС на транспарце.**

### Што крадуць на чыгунцы

– Работнікі чыгункі – дызельнае паліва. А вось кражы ў пасажыраў найчасцей адбываюцца праз нядбайнасць гаспадароў, абыякавасць да ўласнай бяспекі. Едзе ён у навушніках, пакінуў недзе свае рэчы – і ўсё, на іх нуль увагі. Таму так часта крадуць сумкі з рэчамі, прадуктамі. Як пасажыры спяць у цягніках? Ну пакладзі сумку пад галаву, схавай тэлефон. Не, ён мабільнік наогул пакладзе недзе побач – і як тут яго не ўзяць?

Вялікая праблема – нецвярозыя людзі і ў цягніках, і наогул каля чыгункі. Тады чалавека і абакрасці нескладана, а часам здараецца і яшчэ горшае.

Каля 80% здарэнняў – па прычыне таго, што пацярпелы быў нецвярозы. З-за гэтага чалавек можа не заўважыць той жа цягнік. Са зводкі: бег перад ідучым цягніком, ляжаў у каляіне пуцей, проста сядзеў на краі платформы і размаўляў у дзве гадзіны ночы. Ён сядзеў і не чуў, як на яго едзе грузавы цягнік!

**– Што рабіць з курыльшчыкамі ў тамбурах?**

– Звяніце ў 102, нам перададуць ваша паведамленне. У кожным тамбуры ёсць папярэджанне пра штрафы да чатырох базавых велічынь, і адказнасць прапісаная. Адна справа, калі там кураць падчас руху. Але кураць у тамбурах за дзесяць хвілін да адпраўлення! Выйдзі пакуры на перон. Яны стаяць у тамбуры і кураць!

Акрамя курэння, сярод самых частых парушэнняў распіццё спіртнога, прычым наогул на аб'ектах чыгункі і пераход у непрадугледжаным месцы. Ёсць жа насцілы – не, некаторым трэба перайсці за некалькі метраў да пераходу, але толькі не па ім. Нават на чыгуначным пераездзе некаторыя кіроўцы праязджаюць проста перад цягніком.

Здараецца, зайшла бабуля-пенсіянерка, электрычка толькі адпраўляецца, а яна зразумела, што пераблытала электрычку. Ці чалавек праспаў свой прыпынак. І зрывае стоп-кран. За гэта прадугледжаная адказнасць, і парушальнік мусіць выплаціць да трох базавых.

**– Як вы працуеце з "пастаяльцамі" на вакзале?**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Лейтэнант міліцыі Таццяна Субач раіць пасажырам самім больш дбаць пра бяспеку і маёмасць.

– Аказваецца, гэта вельмі хітрыя людзі. Яны не на вакзале начуюць. Заходзяць у цягнік з білетам. Ні рэвізор, ні міліцыя не маюць права яго здымаць. Грошы на білет у іх знаходзяцца. І катацца чалавек можа хоць увесь дзень – ён з білетам. Калі, напрыклад, моцны мароз, мы не маем права выганяць бамжоў.

Ёсць супрацоўнікі патрульна-паставой службы, якія кругласутачна ахоўваюць правапарадак на чыгунцы. Яны аглядаюць прыбываючыя і адыходзячыя цягнікі, удакладняюць абстаноўку ў шляху следавання. На вакзале ёсць кругласутачнае кафэ, дзе не забаронена піць спіртныя напоі, але мы хочам гэта забараніць.

### "І ў тры ночы змяняюся"

**– Чаму вы пайшлі ў міліцыю?**

– Мне было цікава заняцца міліцэйскай справай. Але праца ў райаддзеле міліцыі... Там шмат работы з сямейнымі скандаламі, непрыемнымі з'явамі. На маю думку, гэта праца не зусім падыходзіць дзяўчыне, негатыўна ўплывае на яе асобу.

**Па штаце ў Маладзечанскім аддзеле ўнутраных спраў на транспарце – 36 супрацоўнікаў.**

Паблажак да мяне асаблівых няма. Ставяць на дзяжурствы, на дзяжурствы па выхадных, і ў тры гадзіны ночы змяняюся. Здараецца, мужчыны кажуць: "Ну як гэта, дзяўчына ў міліцыі".

Вядома, дзяўчына ў патрулі ці ўчастковым – гэта я не зразумею. Ну ўявіце: кволую дзяўчыну адправіць да п'янага мужыка, які і ўдарыць можа. Тут і спецсродкі не абароняць. А вось аналітычная праца, работа дазнавацеля ці следчага – жанчына часта нашмат больш скрупулёзна ставіцца да працы, да таго ж расследавання, папяровай працы. На такіх пасадах жанчыны нават могуць мець перавагу.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ВЫШУК

# Паехаў на рыбалку і знік

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў шукае зніклага 36-гадовага мінчаніна Аляксандра Іванавіча Суміна.**



27 лютага мужчына з'ехаў на сваім аўтамабілі "Пежо 806" бардовага колеру (рэгістрацыйны знак 7499 IB-7) на рыбалку на вадаём паблізу Палачан на Маладзечаншчыне і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** рост каля 178 см; хударлявага целаскладу; плечы гарызантальныя; твар авальны, смуглы; лоб па вышыні сярэдні, вертыкальны, бровы дугападобныя, нізкія па вышыні; вочы шэрыя; нос прамы, гарызантальны; рот сярэдняга памеру; вусны сярэдняй таўшчыні, абедзве выступаюць раўнамерна; падбародак выступае; вушы сярэднія; валасы прамыя, цёмна-русыя, зачасаныя на правы бок. Голас моцны, маўленне яснае.

**Асаблівыя прыкметы:** татуіроўка на адной з кісцяў рук у выглядзе надпісу "Саша".

**Быў апрануты** ў камуфляваную форму для рыбалкі.

**Звычкі, схільнасці:** злоўжывае спіртнымі напоямі, курыць.

Пераканаўча просім усіх, хто што-небудзь ведае пра месца знаходжання зніклага, паведаміць у Маладзечанскі райаддзел міліцыі па тэлефонах **8(0176)749683, 770312, 771656** ці па тэлефоне **102**.

**Андрэй КАВАЛЁНАК, оперупаўнаважаны Маладзечанскага райаддзела міліцыі, старшы лейтэнант міліцыі.**

# Шукаюць жыхарку Пружан

**МАЛАДЗЕЧНА. Шукаюць без вестак зніклую 46-гадовую жыхарку Пружан Жанну Паўлаўну Шчурко.**



Летась 10 снежня жанчына была ў Маладзечне ў гасцях. Каля 21.00 яна села на электрычку Маладзечна – Мінск. Са сталіцы яна збіралася вярнуцца ў Пружаны. Аднак яе месцазнаходжанне да цяперашняга часу невядомае.

**Прыкметы:** рост каля 170 см, хударлявая; плечы гарызантальныя; твар авальны, бледны; лоб па вышыні сярэдні, вертыкальны; бровы дугападобныя; вочы шэрыя; нос прамы, гарызантальны; рот сярэдняй таўшчыні; вусны сярэдняй таўшчыні, раўнамерна выступаюць абедзве; падбародак вертыкальны; вушы авальныя; валасы прамыя, пафарбаваныя ў светлы тон, сярэдняй даўжыні; гаворка ясная, з акцэнтам.

**Была апранутая:** карычневая кепка з казырком, дублёнка падоўжаная шэрага колеру з плямамі рознага колеру, доўгая шэрая спадніца, шэрыя калготкі, белыя паўбоцікі з кожзамяняльніка на абцасе.

**Звычкі, схільнасці:** злоўжывае спіртнымі напоямі, курыць.

**Пры сабе мела** поліэтыленавы пакет з рэчамі (штаны белага колеру, спадніца скарочаная чорнага колеру, фіялетавы халат).

Просім грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месца знаходжання зніклай, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах:
**8-0176-749683,**
**8-0176-770312,**
**8-0176-771656** ці **102**.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага РАУС УУС Мінаблвыканкама.**

# “Жанчына роўная мужчыне? Смех! Яна недасягальная…”

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

### Алег Чэчанеў: Бялізна – гэта не падарунак, гэта запрашэнне да нечага большага

– Сюрпрыз – гэта тое, што нельга патрымаць у руках. Можна пачытаць вершы або паехаць разам у месца, якое асацыюецца са знаёмствам, з першым спатканнем. Я сваё першае спатканне не памятаю, але памятаю іншыя сустрэчы. На адной з іх мая жонка падарыла мне світар, які сама звязала. Потым яшчэ і жартавала, што гэтымі ніткамі звязала не толькі світар, але і прывязала мяне самога.

**– А вы дарылі камунебудзь падарунак, які зрабілі сваімі рукамі?**

– Я скажу так: хэндмэйд-падарункі трэба рабіць таму, хто зможа ацаніць іх каштоўнасць. Я захапляюся людзьмі, у якіх рукі растуць з патрэбнага месца. І не веру таму, што мужчыны не чакаюць сюрпрызу ад жанчыны. Але за доўгія гады ў шлюбе я зразумеў, што, калі хочаш сюрпрыз ад жанчыны, трэба канкрэтна і выразна ёй “намякнуць” пра гэта. І пакінуць на сюрпрыз пэўную суму грошай на камодзе.

**– А асноўным падарункам жанчыне на свята 8 Сакавіка можа быць бялізна?**

– Бялізна – гэта не падарунак, гэта запрашэнне да нечага большага. Мяркую, што не варта дарыць жанчыне бялізну без яе на тое згоды. Я жонцы ніколі сам не дарыў бялізну, хаця, калі прасіць пайсці з ёй у краму, ніколі не адмаўляюся. Магу і параіць, і паглядзець, і выказаць сваё меркаванне. Я заўсёды за карункавую бялізну. Асноўным падарункам могуць быць і кветкі.

**– Кветкі дорыце толькі на 8 Сакавіка?**

– 8 Сакавіка жанчына чакае кветкі. Гэта трэба разумець. І, калі ў любы іншы дзень ( каб зрабіць шчаслівай жанчыну без нагоды) можна падарыць адну кветачку, ці букецік палявых рамонкаў, то 8 Сакавіка прадугледжвае букет шыкоўны. У маёй жонкі любімыя кветкі – жоўтыя ружы. Таму на свята абавязкова будзе букет з гэтых кветак. Але я вельмі не люблю, калі букеты кветак хаваюць у каляровую паперу або ўпрыгожваюць пацеркамі ці стразамі, бліскаўкамі. Ну як можна зрабіць яшчэ прыгажэйшым тое, што ад прыроды дасканалае?

**– А кветку ў гаршчку дарыць можна?**

– Кветка ў гаршчку – гэта запрашэнне: “Эй, я дару табе кветку, давай будзем жыць разам, яна будзе расці ў нас на падваконні!”

**– Сняданак у ложак будзе на свята?**

– Што? Сняданак у ложак? Мне здаецца, што гэта ўплыў замежнага кіно і нейкае мяшчанства. Гэта атрымоўваецца, жанчына толькі прачнулася, не прычэсвалася, а я пру ёй сняданак у ложак? Каб потым яна на мяне яшчэ і накрычала, што я выпадкова разліў апельсінавы сок на коўдру? Ці ж гэта рамантычна? На свята звару такую каву, каб водар яго пачула жонка ў другім пакоі, прыйшла на кухню, і мы паснедаем з ёй ўдваіх.

### Эдуард Мацюшонак: Лепшы падарунак той, які нельга купіць

– Жанчыны ўпрыгожваць свет. Яны робяць яго пяшчотным і светлым. І пра гэта трэба нагадваць жанчыне кожны дзень: і ў святы, і ў будні. Ніколі жанчына не будзе роўнай з мужчынай, яна недасягальная. І я хачу пажадаць усім чытачкам “Рэгіянальнай газеты”, каб іх акружалі такія мужчыны, якія кожны дзень будуць дарыць і кветкі, і вершы, і сябе.

**– Вы, як мастак, напэўна, заўсёды дорыце свае творы?**

– Прынамсі, на кожнае свята я імкнуся падарыць хоць невялічкі твор. Што гэта будзе: – жывапіс, прадмет дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ці прыгожа аздоблены верш – залежыць ад настрою. І верш, і любыя словы (калі я прысвячаю іх жонцы **Алене** ці дачцы **Святлане**) ніколі не перапісаныя. Яны ідуць ад чыстага сэрца, ад самай душы.

**– Кветкі дорыце намаляваныя ці сапраўдныя?**

– Кветкі жанчынам дарыць трэба. Але я дару кветкі, якія нельга купіць. Кветкі павінны быць падобныя да самой жанчыны. Такія ж далікатныя і пяшчотныя. Таму я супраць вялізных, пампезных букетаў. Мне здаецца, калі гэта маленькі, інтымны букецік, які складаецца з першых веснавых красак, жанчына павінна сама зразумець, што я хачу ёй сказаць, падарыўшы гэты букет.

**– А вы можаце зрабіць такі сюрпрыз, якога ад вас ніколі б не чакалі?**

– Я гэтым і буду займацца напярэдадні 8 сакавіка. Але не пішыце пра гэта, гэта ж сюрпрыз.


фота Наталлі ТУР.

Акцёр Алег Чэчанеў лічыць, што сняданак у ложак – гэта ўплыў замежнага кіно. Затое з выбарам бялізны гатовы дапамагчы. У краме “Шанталь”.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

 



ТВОРЧАСЦЬ

# “Каляровы мармелад”, які можна апрануць

**МАЛАДЗЕЧНА. Тэатр мод існуе ў Маладзечанскім дзяржаўным каледжы ўжо 16 год.**

За гэты час майстры і навучэнцы стварылі больш за 20 калекцый адзення. Тут, у Тэатры моды, ведаюць, як зрабіць так, каб кожная стала творам мастацтва.

– Я ўжо і стамілася ад пастаянных перамог на конкурсах, – жартуе загадчыца аддзялення швейнай вытворчасці **Ніна Руновіч**.

Але аб усім па-парадку. Пачалося ўсё ў 1998 годзе.

– Першую калекцыю мы стварылі для конкурсу прафесійнага майстэрства ў Барысаве. Тады асноўнай умовай было стварэнне касцюмаў на тэму “Экалогія”. Падчас іх вырабу выкарыстоўвалі паперу, драўляныя габлюшкі. Мы сталі лепшымі ў вобласці. На жаль, тая першая калекцыя не захавалася, але менавіта яе мы лічым пачаткам Тэатра Мод.

**– Ці памятаеце, як яна называлася?**

– Першая калекцыя адпавядала тэме конкурсу і называлася “Экалогія”. Затое назвы мадэляў былі паэтычна-рамантычнымі: “Бярозавая настальгія”, “Белая жамчужына”, “Серабрыстая фантазія”. З таго далёкага 1998 года мы і пачалі сваім калекцыям даваць маляўнічыя назвы.

**– Дзе бярэце натхненне на стварэнне такіх розных, непаўторных вобразаў?**

– Сама Беларусь і беларуская культура і ёсць крыніца нашага натхнення. І назвы некаторых калекцый, мяркую, і сведчаць пра гэта: “ Беларускі гасцінец”, “Беларусачка”, “Спадчына”, “Куфэрак”.

**– Над якой калекцыяй працуеце зараз?**

– Раз на два гады адбываецца Рэспубліканскі фестываль дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва “Беларускі вянок”. У 2012 мы прадставілі калекцыю “Каляровы мармелад”. Гэта калекцыя ўвабрала ў сябе спалучэнне тканіны і каляровага трыкатажу ручной вязкі. Атрымалася яркая і незвычайная. А калекцыя 2014 года пакуль таямніца. Убачыце ў красавіку.



Фота Наталі ТУР.

**На здымку навучэнцы каледжа Надзея Малашка і Уладзіслаў Уласенка дэманструюць калекцыю 2012 года "Каляровы мармелад", якая спалучае ў сабе тканіну і living рознакаляровы трыкатаж ручной вязкі.**

### Хлопцаў у моду заманіць цяжка

Назва “Тэатр мод” складаецца з двух слоў. Калі для Ніны Руновіч галоўнае слова – мода, то для **Сяргея Мазурэнкі**, кіраўніка “Тэатра мод”, галоўнае слова, безмоўна, тэатр.

– У кожнай нашай праграме, акрамя традыцыйнага дэфіле, мы імкнёмся выкарыстоўваць элементы шоу, тэатра. У сакавіку пройдзе адборачны тур конкурса “Планета мод”, дзе наш тэатр прадставіць дзве калекцыі: офісную і моладзевую. Падчас прадстаўлення першай калекцыі мы перанясём гледача ў сапраўдны офіс, дзе пануе рабочая атмасфера. Там працуе тэхніка, шамаціць папера і ўсе супрацоўнікі абавязкова прытрымліваюцца дрэскоду. Моладзевая калекцыя будзе пашыта з джынсавай тканіны, і мы вырашылі, што дэфіле проста абавязаны суправаджаць дзі-джэй.

**– Колькі чалавек сёння ў “Тэатры моды”?**

– Чалавек 18-20. Калектыў рухомы: адны сыходзяць, іншыя прыходзяць.

**– А хлопцы ўдзельнічаюць у паказах?**

– Так. Усе нашы калекцыі пабудаваныя такім чынам, што некалькі мадэляў абавязкова мужчынскія. Але з хлопцамі ў свеце моды цяжка. Праўда, ведаючы, што тут займаюцца прыгажуні, таксама прыходзяць і ўдзельнічаюць.

**– На якіх паказах, акрамя тых, што ладзіць ваш каледж, можна пабачыць “Тэатр моды”?**

– Мы не раз удзельнічалі ў “Млыне моды”, у паказах, прымеркаваных да гарадскіх святаў. Працы многа. Рухаемся, не спыняемся. Хаця, да чаго ўжо імкнуцца? І без таго, перамагаем усюды, дзе толькі можна.

**Наталля ТУР.**

# Хэнд-мэйд цяпер і ў бібліятэцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча вырашыла парадаваць сваіх чытачак напярэдадні 8 сакавіка.**

У чытальнай зале ладзіцца выстава паштовак, зробленых рукамі **Аляксандры**. Яна не называе сваё прозвішча, захоўвае інкогніта. Аляксандра дызайнер, але стварэннем паштовак займаецца ў вольны час.

Усе прадстаўленыя працы прымеркаваныя да 8 сакавіка. Тут жа можна пабачыць і кнігі, па якіх можна паспрабаваць стварыць штосьці самому.

Некаторыя з іх можна ўзяць дадому, некаторыя – паглядзець толькі ў бібліятэцы.

Да Вялікадня супрацоўнікі бібліятэкі плануюць правесці і майстар-клас па стварэнні паштовак сваімі рукамі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Паштоўкі хэнд-мэйд – гэта заўсёды аўтарская праца.**

КНІГІ

## Выйшла першая кніга Тамары Бярэзінай

**МАЛАДЗЕЧНА. Кніга маладзечанскай паэткі, унучкі Пятра Бітэля Тамары Бярэзінай “Карані і галіны” складаецца з дзвюх раздзелаў.**

У першы, паэтычны, увайшлі вершы апошніх гадоў напісання, разнастайныя як па тэматыцы, так і па форме. У другі, празаічны, увaходзяць аўтарскія эсэ, прысвечаныя ўласнаму радаводу, і кароткія апавяданні, сюжэты якіх узяты з рэальнага паўсядзённага жыцця.

Прадмову да кнігі напісаў краязнаўца **Міхась Казлоўскі**.

Першая прэзентацыя адбудзецца ў Маладзечанскай Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча 12 сакавіка. Другую, для чытачоў, арганізуюць пазней.

**Аддзел інфармацыі.**

МАСТАЦТВА

## “Мядзведжая акадэмія” ўжо красуецца ў парку

**СМАРГОНЬ. Урэшце ўсталявалі скульптурную кампазіцыю, што нагадвае жыхарам пра лоўлю і дрэсіроўку мядзведзяў, якой славіліся Радзівілы ў 17 стагоддзі.**

Праект распрацавалі 10 гадоў таму, да 500-годдзя заснавання горада. Праўда, каб скульптуры з паперы перайшлі ў рэальнасць, спатрэбілася 10 гадоў. На гэта папросту не хапала сродкаў, бо кампазіцыю збіраліся выліць з бронзы.

Тады яе аўтар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ганаровы грамадзянін Смаргоні, скульптар Уладзімір Церабун вырашыў адліць кампазіцыю з чыгуна. Тым самым у два разы зменшыўшы затраты.

Усталявалі скульптуры ў Смаргоні падчас святкавання горадам Масленіцы, 2 сакавіка.

**Настасся РОЎДА.**



Фота забяспечана Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

**Урачыстае адкрыццё скульптурнай кампазіцыі адбылося падчас святкавання горадам Масленіцы.**





 

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:
Астравец - 01591,
Ашмяны - 01593,
Валожын - 01772,
Вілейка - 01771,
Маладзечна - 0176,
Мядзел - 01797,
Смаргонь - 01592.



## ВІНШАВАНКА

**З 75-гадовым юбілеем!**
**РЫСІК**
**Кацярыне Іванаўне**
**з Маладзечна**



Жадаем моцнага здароў’я, дабра і спакою, доўгіх гадоў жыцця.

*В этот день рожденья*
*юбилейный*
*Хочется сегодня пожелать:*
*Пусть судьба подарит*
*процветание*
*Будет на душе всегда светло,*
*Сбудутся заветные желания,*
*Жизнь идет легко и хорошо!*

**Муж, сыны.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-100, 1987 г.в., 2,3 Б па запчастках. Т. Лайф (8-025) 9378887.*
- Аўдзі-80 В4, 1992 г.в., 2,0 г/б, цёмна-зялёны металік, 5300 у.а., торг. Т. (8-044) 7492393, (8-029) 7626914.*
- Аўдзі 80, 1989 г.в., 1,8 бензін, карбюратар, белы седан, 3400 у.а., Вілейка. Т. (8-01771) 38500, 80293124191.
- Запчасткі б/у да аўто: Гэлаксі, 1998 г.в.-2002 г.в, Гольф-4, Аўдзі А6 і іншыя. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*
- Камаз-5320, 1997 г.в., борт-тэнт, 5500 у.а., торг. Т. (8-029) 6606629.
- Крайслер Неон, 1995 г.в., 2,0 інжэктар, ц/з, сігналізацыя, літыя дыскі, колер шэра-фіялетавы, пярэдні эл/пакет, 3000 у.а. Т. МТС (8-033) 6687473.
- Мерседэс-310, 210, 2,9 Д па запчастках, ёсць усё. Т. (8-029) 6154346.*
- Міцубісі Харызма, 1997 г.в., 1,8 Б, добры стан, 4900 у.а. Т. (8-029) 5649638, (8-025) 9017311.
- Нісан Альмера, 2001 г.в., 1,5 бензін, седан. Т. (8-029) 6310978.
- Опель Кадэт, 1987 г.в., белы універсал, 1,6 Д, 1250 у.а. Т. МТС (8-029) 5503506.*
- Опель Корса Д, 2008 г.в., 115 тыс.км., 1,2 бензін, МКП, 3-дзверны, хэтчбэк, АБС і шмат іншага, 9000 у.а. Т. (8-044) 7717227.
- Опель Мерыва, 2004-03 г.в., 1,7 ДТІ, чорны металік, літыя дыскі, заводская таніроўка, поўны ТА, торг пры аглядзе, 7900 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 2939490.*
- Пасат В-3, 1991 г.в., 1,8 Б, па запчастках. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Ровер 25, 2000 г.в., 1,4 і, 5000 у.а. Магчымы абмен. Т. (8-029) 7616363, (8-029) 7767897.
- Рэно Калеас, 2008 г.в., 2,5 бензін, АКПП, чорны металік, 160 тыс – прабег, усе опцыі, гаражнае захоўванне, не біты, не фарбаваны. Т. Вэлком 1737104, 6736071.
- Рэно Меган, 2001 г.в., 1,9 ТД. Т. (8-044) 7142746.
- Рэно Сцэнік, 1997 г.в., 1,6 Б, цёмна-сіні, 4950 у.а. Т. (8-029) 6484248, (8-029) 7062008.
- Сіат Кардоба, 1999 г.в., 1,4 бензін, серабрысты металік, 4000 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 2567741.
- Сітраэн Ксантыя, 1999 г.в., 2,0 Д. Т. МТС (8-033) 6827210.*
- Сітраэн С 8, 2003 г.в., 2,2 НДІ, чорны, 7 месц. Т. (8-029) 6910577.*
- Таёта RAV4, 2001 г.в., 2,0 ТД, серабрысты металік, Маладзечна. Т. (8-029) 7697270.*
- Таёта Авенсіс Верса, 2003 г.в., 2,0 дызель, колер мокры асфальт, добры стан, 12750 у.а., Мар'іна Горка. Т. (8-029) 1121113.
- Таёта Авенсіс, 2002 г.в., 2,0 Д, хэтчбэк, скура, л/д, люк, кандыцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6249937.*
- ФВ Гольф, 1986 г.в., 1,6 дызель, 3-дзверны, 1850 у.а. Т. (8-029) 6282510.*
- ФВ Гольф, 1996 г.в., 1,9 Д, універсал. Т. (8-029) 9438461.
- ФВ Гольф-4, 2001 г.в., 1,4 бензін, цёмна-сіні, 5-дзверны, 8199 у.а. Т. (8-029) 7883087.
- Фіят Дуката, 1991 г.в., 2,5 Д, па запчастках. Т. МТС (8-029) 5686869.*
- Форд Сіера на запчасткі, 1989 г.в., 2,0 белы, бензін, Вілейка. Т. (8-029) 8486406.
- Форд Фокус, 2000 г.в., ТДІ, хэтчбэк, серабрысты металік. Т. МТС (8-029) 5518095, Вэлком (8-044) 5687986.
- Матацыкл ІЖ-56, Вілейка. Т. (8-01771) 40363.
- Матацыкл з люлькай “Іж-Планета 5”. Т. МТС (8-029) 2472604.
- Галоўка блока на Форд Экскорт, 1,8 ТД, без размеркавальнага валу; задняе шкло ВАЗ-2105. Т. МТС (8-029) 7070169.
- Запчасткі да ФВ В3, бензін, дызель па запчастках. Т. МТС (8-029) 8777677, Вэлком (8-029) 6154346.*
- Запчасткі да ФВ Пасат Б-4, Опель Астра, 1999 г.в., 1,7 ТДІ, дыскі літыя. Т. (8-029) 3786041.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, МОЛДЫНГІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі Т-4, 2,5 і, бензін. Т. (8-033) 3602789, (8-01771) 74400.*
- Кардан да МАЗа, даўжыня 115 см., Вілейка. Т. (8-01771) 40363.
- Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.
- Рухавік 1,7 Д WV з навясным па запчастках, КПП і счапленне WV-Polo, 1996 г.в., 1,9 Д. Т. МТС (8-033) 6827210.*
- Шыны “Данлоп”, б/у 185/65/R15 летнія, 0,5 мм., 4 шт, 150 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3503272.

### КУПЛЮ

- А/м 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*
- А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*
- А/м у любым стане, можна на запчасткі. Т. (8-029) 7703397.*
- А/м ў добрым стане, для сябе. Дорага. Т. МТС (8-033) 3711756.*
- А/м хутка, дорага, можна з праблемамі, Мінскі р-н. Т. (8-029) 1231245.*
- **А/М, ДОРАГА!** Т. (8-029) 9820207.
- А/м, любы, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*
- Аўто ў любым стане, дорага. Т. Лайф (8-025) 9378887.*
- Аўто, аварыйнае, з праблемамі, забяру сам. Т. (8-029) 2068068.*
- Іншамарку ў любым стане. Т. (8-029) 7088846.*
- Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*
- Масквіч 412 ці Масквіч-2140. Т. МТС (8-029) 7065484, Лайф (8-025) 7518070.
- Рухавік Ваз ў рабочым стане, 1,3 Б, Вілейка. Т. (8-01771) 40363.
- Спайлер на дзверы багажніка а/м Аўдзі-100 Авант. Т. (8-029) 1419072.*

### ІНШАЕ

- **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У, РУХАВІКІ ДА ЕЎРАПЕЙСКІХ АЎТО З ДАСТАЎКАЙ.** ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*

### ПАСЛУГІ

- Арэнда **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА** пад земляныя работы. Т. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- **АЎТАЭЛЕКТРЫК**. Камп’ютарная дыягностыка, устаноўка сігналізацыі, цэнтральных замкоў, падключэнне аўтамагнітол, падагрэў фільтраў. ІП Бандарэнка А.К. УНП 690383566. Т. (8-029) 5717325.*
- Калёсны экскаватар, міні пагрузчык, міні экскаватар, ушчыльненне грунту, свідраванне адтулін пад падмурак, плот і г.д. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*
- **ЭВАКУАТАР**, 4 т. ПП “АльянБудмол”. УНП 691515472. Т. (8-029) 6664141.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 9. Т. (8-029) 5787013.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 2703154.*
- 2-пакаёвая кватэра ў драўляным доме ў Вілейцы. Т. (8-029) 8775320.
- 2-пакоі ў 4-пакаёвай кватэры ў Вілейцы, р-н “Зеніт”, 17000 у.а., торг ці мяняю на іншае жыллё па дамоўленасці. Тэлефанаваць пасля 17.00, тэл. у Вілейцы (8-01771) 37741, (8-029) 5669731.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы (цэнтр, агульная плошча 65 кв.м) або абмен на Мінск. Т. (8-044) 5494454.
- Будынак вытворчы ў Маладзечне з офісам, плошча 500 кв.м. ТДА “Дэмві”. УНП 690259471. Т. (8-029) 7697270.
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы. Т. (8-044) 5657451.*
- Гараж у ГБК-3, вул.Незалежнасці. Т. (8-029) 7667446.
- Гараж у ГК-21 па вул. Скарыны. Т. (8-029) 3292141.*
- Гаспабудова 3х4, пад лазню. Т. МТС (8-029) 2472604.
- Дача, блізка рэчка, лес, 20 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 6706121.*
- Дом а/г Даўгінава, 68 кв.м, сад, тэлефон, 12 сотак, паліва, мэбля. Т. (8-044) 7105716, (8-01771) 68331.*
- Дом на вываз. Т. (8-033) 6613904.
- Дом у в.Івонцавічы, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 3137628.
- Дом у в.Плікавічы, 5 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 2716495.*
- Дом у Маладзечне, вул.Крылова, 40; 39000 у.а. Т. МТС (8-029) 7665327, Вэлком (8-044) 7408147.*
- Дом у Хажове. Т. Вэлком (8-029) 1577076.*
- Кіёск (кубік) пад бытоўку. Т. (8-029) 6654868.*
- Пакой у 3-пакаёвай кватэры ў Мінску, Цэнтральны раён, 29500 у.а. Т. ( 8-044) 5948100.
- Паўдома ў Вілейцы, плошча Свабоды, 34; 24,4 кв.м, склеп, хлеў, калодзеж, тэлефон, 5,5 соткі, 12000 у.а., торг. Т. (8-025) 9724593, (8-0176) 732594.*
- Участак ў Вілейцы, р-н Паўночны, 0,15 га., 2000 у.а. Т. (8-029) 6924654.

### КУПЛЮ

- Гараж у Маладзечне, да 1200 у.а. Т. (8-029) 6300368.*
- Дом у Маладзечне, нядорага. Т. (8-029) 2508444.*
- Зруб 4,5х5,5. Т. (8-044) 7023336.*
- Хутар, недалёка ад Маладзечна, Валожына, Смаргоні, Вілейкі. Т. (8-029) 8589498.

### МЯНЯЮ

- Дом у цэнтры Вілейкі на 2-пакаёвую кватэру з Вашай даплатай ці прадам. Т. МТС (8-029) 8576731.

### ЗДАМ



- Кватэру на суткі ў Маладзечне, Цэнтральная плошча. ІП Гардовіч А.А. УНП 691506689. Т. (8-029) 7058613.*
- Кіёск гандлёвы (а/п Здземелева) ў арэнду, вул.В.Гасцінец. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- Пакой у 3-пакаёвай кватэры ў Маладзечне, цэнтр. Т. (8-029) 2521348.
- Пакой у Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-029) 2757107.
- Гандлёвае памяшканне ці прадам, Смаргонь. Т. (8-044) 7360898.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап’янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

● АДУКАЦЫЯ

# Працягваюць змагацца за “Настаўніка года”

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. Завяршыўся першы тур конкурсу прафесійнага майстэрства педагагічных работнікаў “Настаўнік года Мінскай вобласці”.**

Яго ўдзельнікамі сталі 145 педагогаў з усіх рэгіёнаў, паведамляе 4 сакавіка ўпраўленне адукацыі Мінаблвыканкама.

Журы вывучыла конкурсныя матэрыялы і вызначыла педагогаў, якія працягнуць прафесійнае спаборніцтва ў другім туры. У кожнай з пяці намінацый засталося па чатыры або пяць чалавек.

Сярод іх наступныя прадстаўнікі нашага рэгіёна. У намінацыі “Замежная мова” – настаўнік англійскай мовы гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна **Максім Міхайлаў**, у намінацыі “Выхавальнік дашкольнай адукацыі” – **Марына Калыска** з яслясада №9 Маладзечна. Два настаўнікі з рэгіёна працягнуць спаборніцтва ў намінацыі “Фізіка, астраномія, матэматыка, інфарматыка”. Гэта **Яўген Мароз** з Вілейскай гімназіі №1 “Логас” і **Таццяна Гайшун** з сярэдняй школы №14 Маладзечна.

У намінацыях “Руская мова і літаратура, беларуская мова і літаратура” і “Пачатковыя класы” прадстаўнікоў рэгіёна не аказалася.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ТВОРЧАСЦЬ

# Конкурс беларускай песні пройдзе ў цэнтры “Надзея”

**ВІЛЕЙКА. Конкурс беларускай песні “Зорачкі “Надзеі” адбудзецца 15 сакавіка.**

Пройдзе ён на базе дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра “Надзея”.

– У конкурсе прымуць удзел дзеці з Гомельскай і Магілёўскай абласцей, якія адпачываюць у нашым цэнтры, а таксама навучэнцы школ Вілейшчыны, – паведаміла першы намеснік дырэктара “Надзеі” **Галіна Войтус**.

У конкурсе могуць браць удзел дзеці узростам ад 6 да 17 год. Сярод іх выберуць лепшых у трох узроставых катэгорыях. Намінацыі такія: вакал мужчынскі, жаночы (сола), вакал (дуэт, ансамбль, група).

Чакаецца, што ганаровай госцяй конкурсу будзе заслужаная артыстка Беларусі спявачка **Надзея Мікуліч**.

Конкурс прымеркавана да 20-годдзя з дня адкрыцця дзіцячага цэнтра “Надзея”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СВЯТЫ

# Найлепш прэзентавалі Масленіцу супрацоўнікі Цэнтра “Зубраня”

**МЯДЗЕЛ. Раённае свята Масленіца прайшло 2 сакавіка ў Мядзеле.**

На ім паказалі сваe падворкі прадстаўнікі розных мясцін раёна – пераважна сельскія саветы. Падворкі адметна ўпрыгожылі, прывезлі сваіх музыкаў, тут частавалі блінамі і фірмовымі стравамі.

Журы вызначыла пераможцу конкурсу. Найлепш падрыхтаваліся да свята прадстаўнікі нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра “Зубраня”. Іншыя падворкі таксама адзначылі ў розных намінацыях.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ВЕЧАРЫНЫ

# Ушануюць памяць мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай

**МАЛАДЗЕЧНА. Вядомай маладзечанцы прысвецяць вечар напярэдадні Дня жанчын.**

Творчы вечар памяці мастачкі **Ядвігі Раздзялоўскай** (1902-1992) пройдзе 7 сакавіка ў фае Дзіцячай мастацкай школы.

Пачатак а 15 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота з архіва “РГ”.

Рака Пляснянка ля вуліцы Пляснянская можа стаць добрым месцам адпачынку для гараджан і гасцей Вілейкі.

# Вызначылі галоўныя экапраблемы

## Сярод іх – забруджванне малой ракі Пляснянкі і стан Вілейскага вадасховішча

**ВІЛЕЙКА. “РГ” паведамляла, што Рэгіянальны экалагічны цэнтр для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы выдзеліў Вілейшчыне грант у памеры 50 тысяч еўра для рэалізацыі комплексу экалагічных мерапрыемстваў кампаненту праграмы STREAM.**

У верасні мінулага года Вілейскі райвыканкам і гэты цэнтр падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве па рэалізацыі ініцыятывы “Падтрымка ўстойлівасці планавання экалагічных мерапрыемстваў у населеных пунктах Беларусі і Малдовы”.

Асноўны этап ажыццяўлення ініцыятывы пачнецца ў ліпені. А да гэтага часу каардынацыйны савет і працоўная група мусяць распрацаваць мясцовы экалагічны план дзеянняў. Ён закліканы даць аб’ектыўны і ўсебаковы аналіз важнейшых для раёна праблем у сферы аховы навакольнага асяроддзя. Пра тое, як ідзе праца, распавёў каардынатар па стварэнні мясцовага экалагічнага плана дзеянняў па Вілейскім раёне **Сяргей Ганчар**.

### Апытанне для вывучэння грамадскай думкі

Прадугледжанае вывучэнне грамадскай думкі па асноўных экалагічных праблемах, каб зразумець, якія з іх турбуюць насельніцтва раёна больш за ўсё. Для гэтага правялі кампанію па анкетаванні насельніцтва. Анкеты распаўсюдзілі ва ўстановах адукацыі для бацькоў навучэнцаў, сярод работнікаў прадпрыемстваў і ўстаноў горада, у сельскай мясцовасці. Падчас вывучэння грамадскай думкі запоўнілі 837 анкет. Гэта складае каля 3% усяго насельніцтва ва ўзросце ад 18 гадоў.

Большасць людзей, якія адказалі на пытанні, знаходзяцца ва ўзроставай групе 25-50 гадоў (больш за 73%). Большасць рэспандэнтаў маюць вышэйшую адукацыю – 81, 3 %.

### Найбольш хвалююць праблемы з вадой

Па выніках апытання ў дзясятку самых галоўных раённых экалагічных праблем з 19 прапанаваных трапілі наступныя (у парадку важнасці):

1. Якасць пітной вады.
2. Сцёкавыя воды бытавой каналізацыі.
3. Якасць вады ў каналах, рэках або азёрах.
4. Адсутнасць догляду за грамадскімі зялёнымі тэрыторыямі, паркамі.
5. Стан існуючых аб’ектаў турызму і адпачынку.
6. Нізкая якасць мясцовых дарог, тратуараў; недахоп месцаў для паркоўкі.
7. Звалкі камунальных адходаў.
8. Нерацыянальнае, нямэтавае выкарыстанне сельскагаспадарчых земель.
9. Нездавальняючая праца або адсутнасць камунальных службаў.
10. Праблемы абароны і захаванасці прыродных помнікаў і рэсурсаў.

Першыя тры праблемы былі вызначаныя як прыярытэтныя прыкладна ў 30% рэспандэнтаў. Апошняя праблема з чацвёркі найважнейшых атрымала 18%.

### Пляснянка і вадасховішча – ў дзеянні

З улікам інтарэсаў грамадскасці і меркавання спецыялістаў вылучылі наступныя прыярытэтныя галіны, якія і стануць асновай будучага мясцовага экалагічнага плана дзеянняў:

1. Сцёкавыя воды бытавой каналізацыі – гэта праблема забруджвання малой ракі Пляснянкі, якая і засмечваецца за кошт сцёкавых вод бытавой каналізацыі (Пляснянка ўпадае ў раку Вілія, якая нясе свае воды ў Балтыку).
2. Кіраванне камунальнымі адходамі – гэта правядзенне далейшай працы па раздзельным зборы смецця і далейшай перапрацоўцы цвёрдых бытавых адходаў.
3. Якасць вады ў каналах, рэках і азёрах – гэта стан самага буйнога штучнага вадаёма Беларусі – Вілейскага вадасховішча.
4. Стан існуючых аб’ектаў турыстычнай інфраструктуры – месцаў адпачынку і развіццё зялёнага турызму.



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail: alvy@tut.by

● ГІСТОРЫЯ

# Францішак Сяліцкі: "Гэтай манаграфіяй прагну сплаціць доўг краіне"

*Працяг. Пачатак у №№ 2, 4, 6, 9.*

**Прадоўжым знаёміць з вытрымкамі з кнігі Францішка Сяліцкага: "Даўгінаўска – Будслаўска – Крывіцкі рэгіён на даўняй Віленшчыне (гістарычная хроніка)"**

*Пісаў у "Нашу Ніву" таксама **Мікалай Аношка** з вёскі Аношкі пад Даўгінавам. Ён таксама закрануў тэму "амерыканцаў", якія пасля вяртання праматалі зароблены грошы. Аношка памёр у 1909 годзе, Сасеньскі разам з нейкім Красоўскім з тых жа Аношак напісаў кароткі некралог пра яго. Падалі, што меў 40 гадоў, быў каталіком. Ёсць таксама ў "Нашай Ніве" пара карэспандэнцый з Крывічоў, падпісаных крыптонімам Ja. Sz – ski. У першай з іх размова ідзе пра тутэйшага вар'ята, які вымушаў, каб яго "вазілі" на руках. У другой узнята справа камасацыі зямлі, як вельмі пажаданай (і рэдакцыя газеты прапагандавала камасацыю)".*

## Першая сусветная вайна

Цікава чытаецца раздзел пра Першую сусветную вайну – таму, што тут вельмі шмат успамінаў сведкаў тых падзей. Вось што прыгадваў **Станіслаў Сяліцкі:**

*"15 жніўня 1915 года прыйшлі ў Мікуліна немцы, кавалерыя, а потым пяхота. Занялі фронт за Даўгінавам. Жыхары Мікуліна выехалі з вёскі разам з пажыткамі ў Сіўшчыну (пашу, якая знаходзілася непадалёк ад Мікуліна), дзе былі ўжо прыгатаваныя зямлянкі. Коней і вазы схавалі ў лесе. У такой зямлянцы сядзеў я са сваёй сям'ёй (мне было 18 гадоў).*

*...Немцы былі ў нас толькі тыдзень, потым адышлі аж да Мядзела (каля 50 км на поўнач ад Мікуліна), дзе занялі пазіцыі на доўгі час. Вяскоўцы, як пацярпелыя з прычыны вайны і якія знаходзіліся ў прыфрантавой паласе, пачалі атрымоўваць ад Расійскай дзяржавы муку, кашу, цукар, соль і іншыя харчы бясплатна. Часта ездзілі з абозам у Княгініна. Там ляжала куча мяхоў з правіянтам даўжынёй каля кіламетра, шырынёй каля 15 метраў і вышынёй з будынак. Абоз пад'язджаў да кучы, грузіў мяшкі і вёз у сваю гміну. Адтуль дзялілі харчы па вёсках. Ездзілі зімовай парой праз Даўгінава, Сухі Бор, Малышкі і Лазавыя.*

## "...польскую ўладу прымалі з пэўнай згодай"

*"Вялікая колькасць жыхароў даўгінаўскай гміны прыняла ўжо ў 1919 годзе польскую ўладу з пэўнай згодай. Вось што піша на гэту тэму цытаваны ўжо **Эдвард Дубаневіч**, былы жыхар вёскі Вітаўцы:*

*"Як запомніў з расповеду свайго бацькі і суседзяў Ляшковічаў, Кішкурнаў і іншых, адносіны нашых вяскоўцаў да ўваішоўшага польскага войска былі вельмі прыхільныя. У Вітаўцах, Залазоўі, Мушынцы і іншых вёсках тое войска не праводзіла масавых рэквізіцый. Толькі частку мужчын забралі ў абоз. Даехалі яны да Барысава і адтуль шчасліва вярнуліся назад з коньмі і вазамі. Як распавядаў бацька, вялікі ўплыў на зычлівасць польскага войска да насельніцтва нашых ваколіц меў даўгінаўскі ксёндз, які арганізаваў яму ўрачыстую сустрэчу, з біццём касцельных званоў. Вестку аб падыходзе войска да Вітаўцаў прынёс **Антоні Кішкурна**. Ён таксама разам з **Юзафам Сяліцкім** арганізаваў музыкантаў для вітання атрадаў, якія ўваходзілі ў вёску. Кабеты самастойна арганізавалі збор яек, масла і іншых прадуктаў.*

*У Даўгінава польскія войскі прыбылі з боку Вілейкі і Крывічоў. Маршыравалі на Пагост і Мільчу. Як мне распавядаў бацька і дзядзька **Адольф Дубаневіч**, нашы мужчыны, хаваючыся з коньмі і пажыткамі ў лесе, пачуўшы вестку аб прыбыцці польскага войска, пачалі качацца па зямлі ад радасці".*

Фота mikolka.info.

**Першая сусветная вайна прайшлася праз Даўгінава, пакінуўшы вось гэтыя могілкі, дзе толькі ў адну магілу паклалі адразу 76 чалавек.**

**Пераклад Міхала ГІЛЯ.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**7 сакавіка.** 95 гадоў з дня нараджэння Аляксея Слесарэнкі (1919 – 2005), беларускага пісьменніка, акцёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Пасля заканчэння школы кінафабрыка Белдзяржкіно ў Ленінградзе запрасіла яго здымацца ў ролі Мірона ў фільме "Палескія рабінзоны" (1934). Пасля гэтага накіравалі на вучобу ў Маскоўскую студыю кінаакцёраў. Здымаўся ў фільмах "Бежын луг" , "Вясёлыя хлопцы", "Аэраград". Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў на фронце, камандаваў стралковым узводам. Ад Вялікіх Лук дайшоў да Берліна. Працаваў навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа. Аўтар літаратурнай кампазіцыі "Народны паэт БССР Якуб Колас" і шэрагу кампазіцый для мастацкага чытання, кніг нарысаў "Дарогі і песні" і партрэтаў дзеячаў літаратуры і культуры "Дарагія аблiччы", "Жыццё ў мастацтве". Пераклаў на беларускую мову кнігу А.А.Маякоўскай "Дзіцячыя і юнацкія гады Уладзіміра Маякоўскага".

***

**90 гадоў** назад (1924) прынятая пастанова Прэзідыума ЦВК СССР "Аб аб'яднанні ў складзе Беларускай ССР усіх тэрыторый Савецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва" (да БССР далучаны шэраг паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў).

***

**8 сакавіка.** Дзень жанчын.

***

**9 сакавіка.** 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Гагарына (1934-1968), першага касманаўта Зямлі.

***

**200 гадоў** з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі (1814-1861), украінскага паэта і мастака.

***

**10 сакавіка.** 75 гадоў назад (1939) адбылося адкрыццё ў Мінску будынка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР (цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь).

***

**125 год** з дня нараджэння Уладзіміра Пігулеўскага (1889, Гродна – 1958) беларускага і латышскага пісьменніка, крытыка, перакладчыка, грамадскага дзеяча.

***

**11 сакавіка.** 85 гадоў з дня нараджэння Генадзя Праваторава (1929 – 2010), расійскага і беларускага дырыжора, педагога, народнага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

***

**600 гадоў** таму (1414) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца маёнтак Чырлёны Вілейскага раёна.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

● У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# За перадвыбарную агітацыю ў Красным арыштавалі беларускага актывіста

1922 год. У Польшчы праводзяцца выбары ў Сейм першага склікання. Віленшчына толькі што ўвайшла ў склад Польшчы пасля самароспуску Сярэдняй Літвы – квазідзяржаўнага ўтварэння, на тэрыторыі якога знаходзілася большая частка нашага краю. Беларусы таксама хочуць вырашаць свой лёс, таму ўдзельнічаюць у выбарах. Але не ўсё так проста...

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Віленскае "Słowo" ў нумары за 5 лістапада 1922 года, нядзелю, падае інфармацыю інфармагенцтва Wap:**

## "Арышт беларускага агітатара

У мястэчку Краснае Вілейскага павета арыштавалі выбарчага інструктара Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта Цвірко за падрыўную агітацыю супраць польскай дзяржаўнасці. Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт імкнецца вызваліць гэтага агітатара. (Wap)."

Яшчэ ў пятніцу тое ж агенцтва паведамляла ў "Слове":

## "Беларуская агітацыя

З Вілейскага павета паведамляюць, што праваслаўнае насельніцтва пад уплывам агітацыі Беларускага Звязу штораз усё больш паказвае сваё незадавальненне з польскай дзяржаўнасці, выказваючыся за самастойную Беларусь".

За каго ж меліся галасаваць беларусы? Тое ж "Słowo" пісала 4 кастрычніка, што Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт у выбарчым спісе ў Свянцянскай акрузе на першае месца паставіў ксяндза Адама Станкевіча, на другое – настаўніка Мятлу. У Лідскай акрузе ўпісаныя адпаведна Рак-Міхайлоўскі і інжынер Аўсянік. Урэшце яны сталі дэпутатамі ад Блока нацыянальных меншасцяў, які сваёй галоўнай мэтай ставіў нацыянальнае раўнапраўе.

**Пераклад з польскай.**

Наступным разам я хачу вам расказаць пра падпал у Семерніках, забойства у Альшэве... Неспакойны 1922 год. Пра ўсё апавядаюць пажоўклых старонкі старых віленскіх газет.

SŁOWO

**Даведка "РГ". Газета "Słowo"** выдавалася ў Вільні ў 1922-1939 гадах. Пад лагатыпам першых нумароў пазначаецца, што гэта выданне выходзіць штодня, акрамя паслясвяточных дзён. У 1922 годзе газета мае 4 старонкі. Тут падаецца інфармацыя з усяго свету, Польшчы, з Вільні, як галоўнага горада нашага краю, і Віленшчыны. Заснавалі газету журналіст Станіслаў Мацкевіч і выдавец Тадэвуш Дэмбоўскі.




Дзякуючы інавацыйнаму праекту ў Валожыне стварылі Савет татаў. Ён існуе ўжо цягам двух гадоў.

# Савет татаў разважаў аб праблемах ў сям'і

**ВАЛОЖЫН. Савет існуе ўжо два гады ў сярэдняй школе 1 Валожына. За гэты час паспелі зладзіць тры сустрэчы. Апошняя прайшла ў сераду, 26 лютага.**

– Мы абмяркоўвалі праблемы няпоўных сем'яў, – распавядае намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце **Ірына Жытарук**. – Разважалі, як адчуваюць сябе дзеці, якія жывуць без аднаго з бацькоў. Мы глядзелі статыстыку: колькасць такіх дзяцей увесь час расце. У тым ліку і ў нашай школе. Сабралася каля 80 татаў. І яны выказваліся, разважалі, што можа быць прычынай разводу. Прыйшлі да таго, што часцей за ўсё з-за канфліктаў у сям'і. Гэта ўжо стане тэмай наступнай канферэнцыі. І гэта выбар не школы, а татаў.

Да думкі стварыць такі савет у школе прыйшлі дзякуючы рэспубліканскаму інавацыйнаму праекту "Укараненне мадэлі ўзаемадзеяння сям'і і агульнаадукацыйнай установы ў сучаснай сацыякультурнай сям'і". Ён і быў скіраваны на тое, каб павысіць агульную культуру бацькоў, грамадскі статус сям'і і прэстыж сямейных каштоўнасцяў.

Праект доўжыцца тры гады. Сёлета завяршаецца.

– Мы спрабуем дапамагчы сем'ям, якія трапілі ў складаную сітуацыю, – працягвае спадарыня Ірына. – Сем'ям, якія знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы. Адной сям'і мы дапамагалі з машынай падчас іх перасялення, дапамагалі зрабіць рамонт. І наша праца дае свой плён.

Таксама ў гэтай школе працуе абласны праект "Мадэль сумеснага кіравання школай праз аб'яднанне творчых патэнцыялаў усіх суб'ектаў адукацыйнага працэсу".

Два абласныя праекты ажыццяўляюць і ў Івянецкай сярэдняй школе. Акрамя гэтага таксама ў Чэхаўшчынскай дапаможнай школе-інтэрнаце і Першайскім вучэбна-педагагічным комплексе дзіцячым садку-сярэдняй школе.

Раённыя праекты ёсць у Дорскім ВПК дзіцячы садок-сярэдняя агульнаадукацыйная школа, у Гародзькаўскім ВПК дзіцячым садку-сярэдняй школе, у Ракаўскай сярэдняй школе.

**Настасся РОЎДА.**

# Стварылі цэнтр для дапамогі настаўнікам-дэфектолагам

**ВІЛЕЙКА. Міжнародных праектаў у Вілейцы цяпер не практыкуюць, аднак інавацыйныя ёсць.**

У гімназіі №2 цяпер ажыццяўляецца інавацыйны праект "Укараненне мадэлі ўзаемадзеяння сям'і і агульнаадукацыйнай установы ў сучасным сацыякультурным асяроддзі".

У сярэдняй школе №3 – "Укараненне мадэлі паглыбленай дыферэнцыяцыі навучання вучняў на другой і трэцяй ступенях агульнай і сярэдняй адукацыі".

На базе Вілейскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы ажыццяўляецца эксперыментальны праект "Апрабацыя мадэлі рэсурснага цэнтра ва ўстановах спецыяльнай адукацыі". Праект пачаўся ў 2011 годзе, а завершыцца сёлета 1 верасня. Пра сутнасць праекта расказала намеснік дырэктара школы-інтэрната па вучэбнай рабоце **Марыя Дзяруга**:

– У Беларусі, і ў прыватнасці ў Мінскай вобласці, адкрываецца шмат класаў інтэграванага навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах. Не сакрэт, што кадраў настаўнікаў-дэфектолагаў недастаткова, а калі яны і ёсць, то адчуваюцца цяжкасці як у стварэнні спецыяльных умоў для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, так і ў арганізацыі адукацыйнага працэсу. У Міністэрстве адукацыі ўзнікла такая ідэя: ва ўстановах спецыяльнай адукацыі працуюць педагогі, якія маюць вялікі досвед працы з гэтымі катэгорыямі дзяцей, у іх назапашана шмат метадычных матэрыялаў, і яны могуць гэтымі ведамі падзяліцца. Таму на базе школы-інтэрната апрабоўваецца мадэль рэсурснага цэнтра, у якім аказваецца інфармацыйная і метадычная дапамога настаўнікам-дэфектолагам. Праводзім навуковыя семінары па тых пытаннях, якія турбуюць настаўнікаў-дэфектолагаў – прыязджаюць навукоўцы, дзеляцца досведам нашы настаўнікі-практыкі. Створаны метадычны кабінет, дзе сабраныя ўсе напрацоўкі нашых педагогаў.

Кожны апошні чацвер месяца аб'яўлены днём адчыненых дзвярэй. Да нас могуць завітаць настаўнікі (і не толькі дэфектолагі), бацькі – каб звярнуцца па пытаннях карэкцыйнай дапамогі дзецям. Такіх зваротаў шмат – і не толькі з Міншчыны.

Акрамя гэтых праектаў, у Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаца праводзяць педагагічны праект "Укараненне мадэлі грамадзянска-патрыятычнага выхавання вучняў сродкамі інфармацыйна-краязнаўчага метадычнага цэнтра ва ўмовах аграгарадка".

– Калі праекты пройдуць экспертызу, то на базе вілейскай гімназіі №1 "Логас" запрацуе яшчэ адзін, – дадае загадчыца вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі, спорту і турызму вілейскага райвыканкама **Ірына Пракаповіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Настасся РОЎДА.**

# Ад экалагічных акцый да абмену паштоўкамі

**МЯДЗЕЛ. У Нарацкай СШ №2 (Купа) навучэнцы пад кіраўніцтвам настаўніцы замежнай мовы Валянціны Шпакоўскай працуюць над міжнароднымі інтэрнэт-праектамі.**

– Мы удзельнічаем у міжнародных праектах IERN досыць даўно, – расказала яна. – Праекты разнастайныя, сярод іх шмат экалагічных. Напрыклад, двойчы у год – у маі і верасні – удзельнічаем у акцыі "Пасадзі дрэва". Напрыканцы года ўдзельнічалі ў праекце па абмене калляднымі паштоўкамі – Holiday Card Exchange Project 2013. Атрымалі шмат паштовак ад дзяцей з розных краін свету: Аргенціны, Пуэрта-Рыка, ЗША, Канады, Ізраіля. Цяпер рыхтуемся да удзелу ў міжнароднай кампаніі за захоўванне клімату.

**– А што дзецям дае удзел у падобных праектах?**

– Вельмі многае. Найперш, гэта арганізацыя вольнага часу: удзел у праектах дапамагае праводзіць яго з карысцю. Падругое, праекты вядуцца на замежных мовах – адпаведна павышаецца стымул да іх вывучэння. А яшчэ пашыраецца кругагляд вучняў, яны шмат даведваюцца пра іншыя краіны. Напрыклад, падчас праекта "Мая малая радзіма" супрацоўнічалі з аргенцінскімі дзецьмі. Яны расказвалі нам пра сваю краіну, культуру, традыцыі, нацыянальныя стравы, а мы, у сваю чаргу, пра сваю.

Дзеці, якія першымі пачыналі ўдзельнічаць у інтэрнэт-праектах, ужо завяршылі навучанне ў школе, але дагэтуль працягваюць падтрымліваць кантакты з тымі дзецьмі, з якімі пазнаёміліся падчас інтэрнэт-праектаў.

Таксама ў раёне ажыццяўляецца восем педагагічных праектаў. Яны маюць як выхаваўчы, так і навучальны характар.

Сярод гэтых праектаў такія, як "Узнаўленне і рэканструкцыя помніка прыроды раённага значэння "Парк Стары Мядзел" – у сярэдняй школе №2 горада, "Мая малая радзіма (сям'я, дзіцячы сад, горад)" – у яслях-садзе №2 Мядзела. У Сваткаўскай сярэдняй школе імя Максіма Танка завяршаецца праект "Дарога да Максіма Танка".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Маладзечна – лідар па праектах

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 інавацыйныя праекты ажыццяўляліся на Маладзечаншчыне летась. Гэтая лічба самая вялікая ў вобласці.**

– У гэтым навучальным годзе мы працягваем шэсць рэспубліканскіх праектаў, распачынаем шэсць новых і завяршаем чатыры мінулагодніх праекты, – распавядае метадыст раённага вучэбна-метадычнага кабінета **Клаўдзія Перхаровіч**.

З найбольш цікавых Клаўдзія Перхаровіч назвала праект "Гімназіі №7". У ім разглядаецца магчымасць замацавання за кожным адораным вучнем настаўніка-кіраўніка.

Таксама праект "Інтэрната №2" аб распрацоўцы метадычных дапаможнікаў і наглядных матэрыялаў для адукацыі і выхавання сляпых і глухіх дзяцей.

Сумесны праект "Гімназіі №10" і Хажоўскай сярэдняй школы: "Укараненне мадэлі фарміравання сацыяльных кампетэнцый навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі".

Яшчэ адзін сумесны праект "Сярэдняй школы №11" і "Радашкавіцкай сярэдняй школы", у якім прадугледжваецца распрацоўка і праектаванне эфектыўных урокаў метадычнымі сродкамі.

**Праект "Сярэдняй школы 9" па экалагічным мэнэджменце заняў у мінулым годзе трэцяе месца на рэспубліканскім конкурсе праектаў.**

– Такія праграмы распрацаваныя на працяглы тэрмін. Укараненне адной можа доўжыцца ад года да чатырох. І, каб распрацаваць і ўвесці такі праект, патрабуецца шмат складнікаў. Гэта і падбор адпаведнага ўзроўню сярод вучняў, і склад настаўнікаў- інаватараў, і распрацоўка крытэрыяў, па якіх будуць ацэньваць вынікі праекта, і выбар навуковых кіраўнікоў і кансультантаў, – тлумачыць Клаўдзія Іванаўна.

Акрамя ўкаранення пэўных праграм, у школах Маладзечаншчыны ажыццяўляюцца і эксперыментальныя праекты.

У "Гарадзілаўскай сярэдняй школе" арганізоўваюць педагагічны фрыланс як форму сецевага ўзаемадзеяння. А ў "Сярэдняй школе № 2" фарміруюць праектныя ўменні вучняў пачатковых класаў пры дапамозе канструктара "ЛЕГА".

**Наталля ТУР.**

# Аднакурсніца ўспамінае Рыгора Барадуліна

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанка Ніна Церах памятае народнага паэта Грышкам, маладым студэнтам філалагічнага факультэта, акрыленым, закаханым. Які ўвесь час спазняўся на экзамены, які заўсёды быў у сваіх думах, у сваіх вершах.**

– Дзе б ён ні быў, паўсюль заставаўся паэтам, – прыгадвае спадарыня Ніна, якая вучылася разам з ім на філалагічным факультэце. – У яго галаве, у думках заўсёды было штосьці далёкае ад нас. Але ў той жа час быў добры, адкрыты, просты.

**Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі, пайшоў з жыцця вечарам 2 сакавіка. Яму было 79 гадоў.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Рыгор Барадулін у Дудутках, 2001 год. Каваль з Даўгінава Валеры Піразьеў толькі што выкаваў народнаму паэту на шчасце сапраўдную падкову.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Ніна Церах з усмешкай прыгадвае часы сваёй маладосці, студэнцтва і аднакурсніка Грышку, вядомага сёння на ўсю краіну.

### На ца ліну ў вагонах для цялят

Ніна Церах (дзявочае прозвішча Кліменка) з Рыгорам Барадуліным разам прайшлі праз цаліну. Стаяла страшная спякота. Іх везлі ў вагонах, прызначаных для перавозкі цялят. На мяжы Еўропы і Азіі цягнік спыніўся, каб набраць вады.

– Мы бачылі гэтую мяжу і захапляліся, – прыгадвае яна.

Назад студэнты вярталіся, ужо падзарабіўшы грошай, у звычайных вагонах, для людзей.

– Мы прыехалі на цаліну, але не разумелі, што адбываецца, – працягвае аднакурсніца Рыгора Барадуліна. – Захацелі вады выпіць, а нам жа ніхто не сказаў, што яна салёная. Прэсную прывозілі толькі ў бочках. Адну ў дзень на 300 чалавек. Спалі ў школе на доле на матрацах. Праца цяжкая была. Вялізныя кіпы збожжа ад спякоты прэлі, мы яго сушылі, перакідвалі сюды-туды рыдлёўкамі. Піць хацелася, а вада салёная. Спрабавалі чай заварыць і дадаць цукру…

### Як заляцаўся да дзяўчыны

Спадарыня Ніна памятае і Грышку закаханага. Яму тады падабалася прыгажуня **Аня Дуброўская**.

– Заляцаўся ён вельмі здалёк, баяўся. Выбітным прыгажуном не быў. Дзяўчаты на яго асаблівую ўвагу не звярталі, бо і ён на іх не звяртаў. Грышка быў заняты сваімі думкамі, сваімі справамі. Адна Аня яму падабалася, гэта мы ведалі. Вершы ў яго заўсёды наперадзе былі. Ён, мабыць, нават думаў вершамі.

### Заўсёды спазняўся

Ніхто не разумеў, калі Грышка рыхтуецца да экзаменаў. Ён жыў у інтэрнаце, але яго практычна ніколі там не было.

– Сябраваў з усімі тагачаснымі паэтамі-пачаткоўцамі: **Генадзем Бураўкіным**, які ў той час з нашага пакоя практычна не вылазіў, бо быў закаханы ў адну нашу дзяўчыну. З **Толем Клышко**, **Нілам Гілевічам**. Усе яны былі ў адной кампаніі, – прыгадвае спадарыня Ніна часы сваёй маладосці.

З намі ён вельмі мала быў. Так, прыбягаў: "Калі экзамен? Дзе экзамен? Які?" Звычайна да таго часу ўсе ўжо здавалі, а ён забягаў апошні. Але заўсёды здаваў.

**Праз шмат гадоў пасля студэнцтва, калі курс збіраўся на вечар сустрэч выпускнікоў, Рыгор Барадулін таксама спазніўся. Яго чакалі ўсе.**

Ён увесь час быў быццам крыху рассеяны. Увесь у паэзіі, разумееце? Яму ўсё тое, што мы вучылі, канспектавалі – Сталіна, Леніна і ўсю гісторыю КПСС – менш за ўсё было патрэбна.

Малады Барадулін заняткі прапускаў часта. Ён нікому нічога не тлумачыў. А студэнтаў часам правяралі, а часам і не.

– Многія першыя яго вершы мы чыталі, а ўжо апошнія – не, бо мала разумелі. У яго паэзія не простая і трэба доўга разважаць, каб зразумець, што ён меў на ўвазе. І рыфма цяжкая. Кожнаму сваё.

**Настасся РОЎДА.**

*Мой недатыкальны*
*запас*
*Пад прыглядам*
*роднага краю –*
*Маміны яблыні,*
*Бацькаў вяз*
*І пугурак,*
*Дзе мама чакае…*

**Рыгор БАРАДУЛІН.**
**7 чэрвеня 2011 году,**
**лякарня.**

# Верш Барадуліна пачынаўся з Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Верш Рыгора Барадуліна "Узятыя на смерць павінны жыць..." бярэ свой пачатак ад Маладзечна.**



Фота svaboda.org.

Паэт з Маладзечна Лявон Цімохін згадвае Барадуліна як свайго старэйшага прыяцеля.

У канцы 2010 года маладзечанец **Лявон Цімохін** перажываў за многіх сваіх знаёмых. Не маючы моцы дапамагчы, ён склаў радок "Узятыя на смерць павінны жыць" і зачытаў яго Барадуліну. Праз некалькі дзён народны паэт напісаў верш, які бярэ пачатак ад радка маладзечанца.

### Хрысціянская сутнасць

– Гэта цудоўны хрысціянскі верш у абарону людзей, – распавядае Лявон Цімохін. – Адзін з апошніх яго геніяльных вершаў. Наогул, адметнасць Барадуліна – яго светлая хрысціянская сутнасць. Гэты яго запавет застаўся для нас.

Лявон Цімохін успамінае дзядзьку Рыгора вельмі веруючым чалавекам, які быў моцна зацікаўлены ў духоўным росце. Вельмі радаваўся таму, што ў Маладзечне пабудавалі другі касцёл. А пантыфіка Яна Паўла II лічыў прарокам на зямлі, пераклаў яго кнігу на беларускую мову.

### Няма рымлян, ёсць латынь

Народны паэт быў упэўнены, што беларуская мова ніколі не знікне. У адной спрэчцы Лявон Цімохін казаў пра бессмяротнасць мовы, і Рыгор Барадулін падтрымаў яго: "Цяпер няма тых рымлянаў, але існуе латынь".

– Нацыянальныя мовы ён лічыў грунтам існавання людзей. Гэта быў чалавек надзвычай светлы. І сваім светлым хрысціянскім духам ён натхніў многіх людзей. Мне ён нагадвае ўкраінскага Тараса Шаўчэнку.

### Вялікі Гасцінец у адным экзэмпляры

Дзядзька Рыгор цікавіўся тапанімікай Маладзечна.

– Я ўдзельнічаў у камісіі, якая імкнулася вярнуць спрадвечныя назвы гораду, што праслаўляюць наша мінулае, – прыгадвае маладзечанец. – Сяброўка даслала паштоўку з Іспаніі, напісаўшы ў адрасе "Вялікі Гасцінец". Мне потым яшчэ паштальёны дзякавалі за ўнікальную назву – толькі ў нас такая вуліца ёсць. І калі я гэта расказваў Рыгору, то ... трэба было бачыць яго вочы! Сказаў, што ніяк не думаў, што выйдзе, каб наша вуліца была ў адзіным экзэмпляры ў Сусвеце. Дзядзька Рыгор вельмі шчымліва тады гаварыў пра тое, што Маладзечна мае ідэальную тапаніміку.

### Сябры Барадуліна

Лявон Цімохін расказвае, як пазнаёміўся з будучым народным паэтам:

– Мы даўнавата знаёмыя з Барадуліным. Мой дзядзька Міхась Сыракваш сябраваў з Уладзімірам Караткевічам. Праз яго я ведаў літаратурнае асяроддзе. Ён для мяне быў старэйшым прыяцелем. А сябры Барадуліна – **Генадзь Бураўкін**, **Уладзімір Някляеў** і **Глеб Лабадзенка**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка "РГ". Лявон Цімохін.** Настаўнік гісторыі, паэт. У пачатку 1990-х гадоў дэпутат Маладзечанскага гарсавета.

*Узятыя на смерць павінны жыць.*
*Яны прыйшлі ў жыццё,*
*Каб цемра знікла,*
*Каб д'ябалавы ашчэраныя іклы,*
*За ганьбу помсцячы,*
*Ушчэнт скрышыць.*

*Дай моцы духу*
*Ратнікам святла.*
*Рашучыя не могуць быць рабамі.*
*Хай здрайцы ў дол пакоры*
*Б'юць ілбамі,*
*Трывацьме непахіснасці скала.*

*Не памірае праведная кроў,*
*Яна ў вяках*
*Не ведае сутрыму.*
*Злу непадлеглую сваю Радзіму*
*Світальна*
*Бачаць вочы вяроў!..*

**Рыгор БАРАДУЛІН.**
**2 студзеня 2011.**

ПЛАВАННЕ

# Віктар Мазнёў: Зачыняць спартшколы і што тады?

**МАЛАДЗЕЧНА. – Ці ведаеце вы, што старажытныя грэкі невукамі лічылі людзей, якія не ўмеюць плаваць і чытаць?**

І, заўважце, плаваць у першую чаргу, – з такімі словамі сустракае мяне на парозе басейна "Маладосць" яго дырэктар, **Віктар Мазнёў**, – а пра плаванне ў сучасным Маладзечне мы з вамі і пагаворым, так?

Гарадскі басейн "Маладосць" у 2014 годзе адзначае сваё 44-годдзе. Ад 2013 года спартыўнай школе, што працуе на базе басейна, надалі новы статус. Цяпер гэта: "Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерва прафсаюзаў".

– Атрымаць такі высокі статус нам дапамог паралімпійскі чэмпіён Пекіна і ўдзельнік Паралімпіяды ў Лондане **Дзмітры Салей**, а таксама **Генадзь Сушко**, які заняў другое месца на чэмпіянаце свету па гарадошным спорце ў Санкт-Пецярбургу.

**– Сёння ў школе ёсць прэтэндэнты на ўдзел у нацыянальнай зборнай краіны па плаванні?**

– Выхаванец нашай школы **Усевалад Трацэўскі** ужо ўдзельнічаў у Чэмпіянаце свету, але, наколькі я ведаю, ён думае аб тым, каб змяніць краіну. Вялікую надзею мы ўскладаем на цяперашнюю выхаванку школы **Кацярыну Кашкоўскую**, удзельніцу алімпійскага фестываля моладзі Еўропы ў Галандыі ў ліпені мінулага года. Сёння двое нашых выхаванак **Ірына Міхалёнак, Ксенія Чайка** ўжо майстры спорта. Нашы выхаванцы: тыя ж Кацярына Кашкоўская, Ірына Міхалёнак, Ксенія Чайка, а таксама **Марыя Максімовіч, Анастасія Малахава, ПавелГрадабаеў, Аляксандр Галоўскі** – навучэнцы Маладзечанскага філіяла абласнога вучылішча алімпійскага рэзерва. Гэта вышэйшая звяно. Далей толькі Нацыянальная зборная. І не магу не адзначыць працу трэнераў гэтых спартсменаў. Я іх называю "залатая брыгада". Гэта **Ігар Дземідовіч, Уладзіслаў Антонаў, Людміла Гілевіч, Алена Руткоўская, Наталля Сушчанка.**

**– Колькі навучэнцаў сёння ў вашай спартыўнай школе?**

– Плаваннем у нас займаюцца 339 дзяцей, пачынаючы з 8-гадовага ўзросту. А разам з гарадошным спортам і спартыўнай гімнастыкай у нас 663 юныя спартсмены.

### Юнацкі рэкорд краіны па плаванні належыць маладзечанцы

**– Дзеці з задавальненнем ідуць на плаванне?**

– Цяпер стала працаваць цяжэй. Але нам вельмі дапамае аддзел адукацыі і спорту райвыканкама. Дзякуючы таму, што яны надаюць вялікае значэнне навучанню плаванню, у нашых трэнераў ёсць магчымасць адбіраць найбольш адораных вучняў і рабіць з іх спартсменаў.

**– Заняткі плаваннем адбіраюць шмат часу?**

– Трэніроўкі праходзяць 2 разы на дзень. За дзень спартсмены павінны праплыць 5-6 кіламетраў. На жаль, з сямі гарадскіх басейнаў, ні ў адным няма дзіцячага "лягушатніка", каб дзеткі маглі займацца з самых малых гадоў. Некаторыя бацькі скардзяцца, што дзіцёнак праз плаванне не паспявае ў школе, але гэта хлусня. Я не ведаю ні аднаго дзіцёнка, які б кінуў плаванне і ад гэтага палепшыў вынікі ў вучобе. Заняткі плаваннем, як і любым другім спортам, трэніруюць у дзецях цягавітасць і дысцыпліну. Але гэта таго варта. Наша выхаванка Ксенія Чайка паставіла рэспубліканскі рэкорд па плаванні сярод юніёраў.

**– Дзе трэніруюцца спартсмены, калі адключаюць ваду ў басейне?**

– Нам насустрач ідзе 14 школа. Дзякуючы ім, нашы спартсмены не перарываюць свае трэніроўкі ні на дзень.

**– Я памятаю, раней у басейне была вышка. Чаму яе прыбралі?**

– Сур'ёзна трэніравацца ў скачках у ваду яна не дазваляла, вышка была зусім невысокая. Паставіць іншую мы не можам з-за таго, што глыбіня басейна не дазваляе. Таму, акрамя траўмаў (бо на яе чапляліся ўсе, хто не ленаваўся), яна не давала нічога. І мы яе прыбралі.

**– А чаму ў нас не развіваюцца такія віды спорту, як скачкі ў ваду ці сінхроннае плаванне?**

– Для скачкоў у ваду няма падыходзячага па глыбіні басейна. А для сінхроннага плавання – традыцый. Гэта добра яшчэ, што плаванне ёсць. Намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік на нядаўняй калегіі міністэрства спорта і турызма прапанаваў скараціць немедальныя віды спорту. Здарыцца так, і што будзе? Гэта і так дзіва, што мы пакуль можам адрываць дзяцей ад камп'ютараў і прыводзіць іх у спорт. Больш таго, па плаванні мы праводзім унутрышкольныя спаборніцтвы 11 разоў на год. А ў гарадошным спорце маладзечанцы – самыя моцныя. І школа трымаецца на трох кітах, заслужаных трэнерах Беларусі. Гэта **Аляксандр Кулак, Аляксандр Сучко** і маладыя спецыялісты **Юры Когель**. Але пра іх варта напісаць асобны артыкул.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**Віктар Мазнёў: басейн даўно патрабуе капітальнага рамонту, яго тут не было з дня адкрыцця, ужо 44 гады.**

СПАБОРНІЦТВЫ

# Лепшыя ў грэка-рымскай барацьбе

**МАЛАДЗЕЧНА. Першынство Мінскай вобласці па грэка-рымскай барацьбе для юнакоў 1999-2000 гадоў нараджэння адбылося ў дзяцяча-юнацкай спартыўнай школе №1.**

Спаборніцтвы праходзілі цягам чатырох дзён: ад 28 лютага па 2 сакавіка.

У спаборніцтвах удзельнічалі каманды з Маладзечна, Барысава, Пухавічаў і Беразіно.

Першае месца ў асабовым заліку ў вагавай катэгорыі 73 кілаграмы заняў **Яўген Лебедзеў**, у катэгорыі 66 кілаграмаў – **Арцём Валасковіч**, у катэгорыі 53 кілаграмы – **Сямён Курэц**, у катэгорыі 47 кілаграмаў – **Павел Глінчук**, у катэгорыі 32 кілаграмы – **Аляксандр Далінкевіч**.

Другое месца ў асабовым заліку ў вагавай катэгорыі 59 кілаграмаў заняў **Мацвей Шапко**, у катэгорыі 42 кілаграмы – **Аляксандр Яцуковіч**, у катэгорыі 35 кілаграмаў – **Максім Севасцьянаў**, у катэгорыі 32 кілаграмы – **Даніла Кайлевіч**.

Трэцяе месца ў асабовым заліку ў вагавай катэгорыі 85 кілаграмаў заняў **Сямён Палеопак**, у вагавай катэгорыі 66 кілаграмаў – **Дзмітры Габчанка**, у вагавай катэгорыі 53 кілаграмы – **Арцём Прахарэнка**, у вагавай катэгорыі 38 кілаграмаў – **Уладзіслаў Раманоўскі**, у вагавай катэгорыі 35 кілаграмаў – **Дзмітры Андрэеў**, у вагавай катэгорыі 32 кілаграмы – **Павел Кандраценя.**

– У агульнакамандным заліку каманда з Маладзечна, набраўшы 94 ачкі, заняла першае месца,– паведаміла "Рэгіянальнай газеце" інструктар-метадыст "Дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы № 1" **Таццяна Найдзіч.**

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## У турніры па валейболе перамагла каманда з Людвінова

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 1 сакавіка праходзіў дванаццаты турнір па валейболе сярод мужчынскіх каманд на прызы дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Надзея".

Прыняло ўдзел сем каманд, на першым этапе іх падзялілі на дзве падгрупы. У фінальную частку выйшлі чатыры каманды. Перамагла каманда Людвіноўскага сельсавета, на другім месцы – Энергазбыт, на трэцім – Вілейскае ЖКГ, чацвёртым – цэнтра "Надзея".

Каманды ўзнагародзілі дыпломамі, медалямі, грашовымі прызамі, а каманду- пераможцу – яшчэ і пераходным кубкам.

Таксама былі ўзнагароджаны каштоўнымі прызамі гульцы ў асобных намінацыях: самы карысны гулец – **Сяргей Чарапovіч** (каманда Людвіноўскага сельсавета), лепшы гулец – **Юры Ёрш** (Энергазбыт), лепшы абаронца – **Уладзімір Балаш** (Вілейскае ЖКГ), самы дасведчаны гулец – **Уладзімір Аляксееў** (ДРАЦ "Надзея").

**Аляксандр ВАЙДА.**

## Лідзіруе каманда Мядзела

**МЯДЗЕЛ.** Гульні 11 тура чэмпіянату раёна па міні-футболе адбыліся 25 лютага і 1 сакавіка.

У аўторак каманды РАУС і Нарацкага савета выдалі баявую нічыю 6:6, супрацоўнікі райаддзела на надзвычайных сітуацыях абыгралі каманду індывідуальных прадпрымальнікаў 4:2. У яшчэ адным матчы сустрэліся каманды, якія летась занялі першае і другое месца ў чэмпіянаце і паспяхова гуляюць у гэтым – цэнтра "Зубраня" і аддзела адукацыі, спорту і турызму. "Зубраняты" былі мацнейшымі 3:2.

У суботу футбалісты прадпрыемства меліярацыйных сістэм абыгралі каманду райваенкамата з лікам 4:1. Каманда Мядзела была мацнейшай за прадстаўнікоў РАУС (11:3), індывідуальныя прадпрымальнікі выйгралі ў СДЮШАР 4:2, "Юніёр" прайграў гульцам з Крывіцкага савета 3:5.

Лідзіруе ў чэмпіянаце каманда Мядзела, на другім месцы – цэнтра "Зубраня", на трэцім – аддзела адукацыі, спорту і турызму. Пра ўсё гэта паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Спаборнічалі будучыя абаронцы Айчыны

**ВІЛЕЙКА.** На базе гімназіі №2 1 сакавіка адбыліся раённыя спаборніцтвы па мнагаборстве "Зімні абаронца Айчыны". Удзельнічалі ў іх юнакі 15 год і старэйшыя. У кожнай камандзе былі па тры ўдзельнікі. Яны стралялі з пнеўматычнай вінтоўкі, падцягваліся на перакладзіне і беглі крос адзін кіламетр, паведаміла дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч.**

Сярод гарадскіх устаноў адукацыі першае месца занялі гаспадары, другое месца – у каманды гімназіі №1 "Логас", трэцяе – у навучэнцаў сярэдняй школы №3.

У групе "Б" перамаглі юнакі з Даўгінаўскай сярэдняй школы, у групе "С" выступала адзіная каманда – з Асіпавіцкага сада-школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## "Смаргонь": без Крата і з навічкамі

**СМАРГОНЬ.** Лепшы бамбардзір мінулагодняга чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе **Сяргей Крот** не працягнуў кантракт са "Смаргонню". Футбаліст на правах вольнага агента падпісаў кантракт з "Гарадзеяй", паведамляе fc-smorgon.by.

Асацыяцыя "Беларуская федэрацыя футбола" зарэгістравала кантракты футбольнага клуба "Смаргонь" з трынаццацю футбалістамі. Сярод іх гульцы, якія выступалі за клуб у мінулым сезоне: **Радзівон Жук, Сяргей Кавальчук, Павел Шмігера, Раман Гаркуша, Павел Баскакаў, Вячаслаў Замара, Максім Яблонскі, Мікалай Рындзюк.**

Акрамя таго, падпісаны кантракты з футбалістамі, якія знаходзіліся на праглядзе ў "Смаргоні" і падышлі клубу: **Ігар Нарожнік, Сяргей Равіна, Юры Мархель, Сяргей Шуманаў, Дзмітры Жданок.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

## З пошты рэдакцыі

### Дарогі лепшымі не становяцца

Пайшоў трэці месяц як мы законапаслухмянна выконваем новую пастанову аб абавязковым дарожным падатку. Што змянілася на дарогах за якія мы пачалі дадаткова плаціць, у якім яны стане?

Магу адказаць адназначна, зруху да лепшага я не заўважаю, а наадварот, сітуацыя пагаршаецца. Дарогі працягваюць разбівацца і рамантаваць па ўсяму бачна ні хто іх бліжэйшым часам не збіраецца.

Учора, 2 сакавіка, вырашыў праехацца на сваю малую Радзіму на Вілейшчыну, па маршруце Чысць-Беражок-Хаценчыцы-Сакалоўка. На пераадольванне 30-кіламетровай адлегласці на гэты раз мне спатрэбілася ўдвая больш часу чым раней.

На працягу ўсяго маршруту асфальтавае пакрыццё разбіванае, шматлікія ямiны дасягаюць 15 сантыметровай глыбіні і аб'ехаць іх практычна немагчыма. Кожны раз трапляючы ў такую выбоіну, мала таго што ламаем сваіх жалезных коней, але вельмі рызыкуем як сваім жыццём, так і жыццём і здароўем іншых удзельнікаў дарожнага руху. Я не выключаю таго, што жудасную аварыю 16 лютага каля Ерхаў, на трасе Мінск-Мядзел, магла справакаваць і магчымая такая выбоіна.

Па Хаценчыцах рухацца прыходзіцца на другой і нават на першай перадачы.Такая ж хуткасць і па гравійцы на Сакалоўку і Новую Гуту. Гэтыя адрэзкі дарог мабыць ужо забыліся што такое грэйдэр.

Што здарылася, чаму у такім стане апынуліся дарогі? Сёлета зімы амаль што наогул не было, што дало немалую эканомію дарожнікам. А самае галоўнае мы, карыстальнікі дарог, з Новага года пачалі дадатковае абавязковае (і досыць значнае) фінансаванне дарожнага фонду. Пытанне: куды дзяюцца нашы грошы? Грошы забралі, паслугу не прадаставілі!

Дарожнікам, мабыць, хапіла нашых грошай толькі на знакі абмежавання хуткасці і няроўнасці на дарозе. А вязныя ямiны дзе ні дзе засыпалі проста жвірам – да першага дожджыка. Тымі гадамі дарогі дрэнна рамантавалі, бо мы грошы мала давалі! Сёлета грошы з нас пачалі браць, а дарогі так і не пачалі рамантаваць. Якую ж прычыну у сваё апраўданне знойдуць дарожнікі на гэты раз?

*Аляксандр РАТКЕВІЧ, Чысць.*



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9 | | | 5 | | |
| | 2 | 3 | | | | 1 | 6 | |
| | | | | 6 | 2 | 4 | 9 | |
| 1 | | | 6 | 2 | | | | |
| | | 8 | 3 | | 1 | 9 | | |
| | | | | 9 | 8 | | | 1 |
| | 6 | 2 | 5 | 3 | | | | |
| | 8 | 7 | | | | 2 | 3 | |
| | | 9 | | | 6 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталлі ТУР.

**Новы беларускі звычай: перад тым, як спаліць пудзіла Масленіцы, з ім трэба сфатаграфавацца.**

## РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

ПРЭМ'ЕРА. Эпічны экшн **"300 спартанцаў: Росквіт імперыі"**, 3D (ЗША, 2014, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
7 сакавіка – 21.00
8 сакавіка –18.30, 21.00
9 сакавіка – 18.30
10-12 сакавіка – 21.00
13 сакавіка – 18.30
Кошт білета – 55 000 рублёў.

Фэнтэзі **"Каханне скрозь час"** (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 сакавіка – 18.30
8 сакавіка – 16.00
9 сакавіка – 21.00
10 сакавіка – 18.30
12 сакавіка – 18.30
13 сакавіка – 21.00
Кошт білета – 30 000-35 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя **"Лега. Фільм"**, 3D (Аўстралія, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
8 сакавіка – 12.00
9 сакавіка – 12.00, 14.00
12-13 сакавіка – 16.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Гістарычная драма **"Пампеі"**, 3D (ЗША, Германія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 сакавіка – 16.30
8 сакавіка – 14.00
9 сакавіка – 16.00
11 сакавіка – 18.30
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ

Анімацыя **"Рухай ластамі 2"** (Бельгія, 2012, без узроставых абмежаванняў)
8-9 сакавіка – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама **"Паганіні: Скрыпач Д'ябла"** (Германія, Італія, 2013, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
11-12 сакавіка – 21.30
13 сакавіка – 19.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама **"Дыяна: Гісторыя кахання"** (Вялікабрытанія, Францыя, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 сакавіка – 21.30
8 сакавіка – 19.30, 21.30
9 сакавіка – 17.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама, камедыя **"Усё, акрамя кахання"** (Аўстралія, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 сакавіка – 17.30, 19.30
8 сакавіка – 17.30
9 сакавіка – 19.30, 21.30
10 сакавіка – 21.30
11-12 сакавіка – 19.30
13 сакавіка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Кошкі-Мышкі"** (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
14 сакавіка – у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Падобны на Стынга"** (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
11 сакавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Нязваны госць"** (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), *Святлана Бартохава*
12 сакавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
14 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Насарог і Жырафа"** (лірычная казка), *Х.Гюнтэр*
9 сакавіка – у 12:00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП (7-13 САКАВІКА)



**Авен.** Вы павінны мабілізаваць усе свае сілы для рашучага прарыву, але пастарайцеся пры гэтым не забываць і пра адпачынак. Калі магчыма, арганізуйце для сябе свабодны рэжым работы.



**Цялец.** У вас наступае спрыяльны перыяд для актыўнай дзейнасці. Збярыцеся з сіламі і не дазваляйце сабе расслабіцца і замаркоціцца.



**Блізняты.** Не імкніцеся прадоўжыць адносіны з чалавекам, які пры першай сустрэчы пакінуў пасля сябе непрыемнае ўражанне. Вам будзе шанцаваць – гэта дапаможа ў дасягненні пастаўленых мэтаў і наогул вельмі ўзрадуе.



**Рак.** Пастарайцеся не спрачацца з роднымі і блізкімі. Усё роўна вы ўсё зробіце па-свойму, трэба толькі пачакаць нейкі час і рэалізаваць свае задумы.



**Леў.** Да вас цягнуцца людзі за падтрымкай, якія не такія моцныя духам. Умейце адрозніваць тых, хто сапраўды апынуўся ў складанай сітуацыі, ад хранічных няўдачнікаў.



**Дзева.** Удзяліце больш увагі і часу родным: не забывайце, што менавіта яны з'яўляюцца самымі важнымі людзьмі ў вашым жыцці.



**Шалі.** Будзьце больш цярплівымі да навакольных. Памятайце, вы таксама не беззаганныя. Асвойце незнаёмую справу, вынік не прымусіць чакаць.



**Скарпіён.** Давядзецца перагледзець свае погляды на жыццё і, хутчэй за ўсё, памяняць кола зносін. Больш увагі ўдзяляйце каханаму чалавеку.



**Стралец.** Перыяд прыняся з сабой зорны ўплыў, ад вас запатрабуецца не ўпусціць шанц, які даруе лёс, і кантраляваць тое, што адбываецца за вашай спіной.



**Казярог.** Вы можаце дасягнуць шмат чаго ў сваім жыцці дзякуючы высокай працаздольнасці і прыроджанаму практыцызму. І не шукайце стабільнасці і адсутнасці перамен.



**Вадалей.** Кантралюйце сябе, бо людзі ўвесь час будуць бесцырымонна ўмешвацца ў ваша жыццё. Яны будуць патрабаваць, прад'яўляць прэтэнзіі. Таму дастаткова будзе адной іскры, каб прагрымеў магутны выбух.



**Рыбы.** Давярайце сваім адчуванням, першае ўражанне вас не падмане. Калі хочаце зрабіць рашучы крок, прадумайце кожную дэталь.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27



## НАДВОР'Е

**8 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +4 | | +4 / +7 | | 0 / +7 | | +2 / +9 | |
| | 754 | ↑ 1 | 752 | ↗ 6 | 756 | ↘ 4 | 745 | ↗ 9 |
| Вільня | +2 / +5 | | +4 / +6 | | 0 / +6 | | +2 / +9 | |
| | 762 | ↑ 3 | 760 | → 7 | 764 | ↗ 3 | 752 | ↗ 9 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.43
Захад 19.03
Даўжыня дня 11.20

Усход 11.12
Захад 2.41
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе.
- Абертас (9 сакавіка) — час звароту птушак дадому, завівання імі гнёздаў, прымеркаваны да дня знаходжання (обретения) галавы Іаана Прадцечы.



## Чытайце праз тыдзень:

- **Сям'я Смятаніных стварыла арніталагічную пляцоўку каля дома, што на Мядзельшчыне.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 10 (984) 7.03.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 196. Падпісана ў друк у 10.00 6.03.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.